# Народная Воля

**№ 6 (3747)**

22 студзеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СЕНСАЦЫЯ!

# Чамадан без ручкі



Віктар Шэйман на пасадзе памочніка кіраўніка дзяржавы пратрымаўся... крыху больш за тыдзень.

Учора стала вядома, што самы прыбліжаны да А.Лукашэнкі чалавек стаў кіраўніком спраў прэзідэнта.

Кім толькі Віктар Шэйман не працаваў! Некалі ён быў на пасадзе кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Кароткі час узначальваў Міністэрства ўнутраных спраў. Быў і Генеральным пракурорам, кіраўніком Савета бяспекі, памочнікам па асобых даручэннях у штаце Савета бяспекі, памочнікам прэзідэнта...

Падобна на тое, што адпускаць яго далёка з вачэй А.Лукашэнка не рызыкуе. Ну як тут не ўспомніць чамадан без ручкі...

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## *Уладзімір Макей марнуе час ці?..*

Непублічна, негалосна, ціхенька Мінск актывізаваў перамовы з Захадам.

Даўно беларускія кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў не мелі такой сканцэнтраванасці на заходнім накірунку. Толькі пералік сустрэч і перамоў, якія апошнім часам правёў міністр замежных спраў Уладзімір Макей, сведчыць сам за сябе.

Так, міністр сустрэўся з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў дзяржаў-членаў Еўрапейскага Саюза, Ватыкана, ЗША і Швейцарыі.

Акрамя таго, прайшлі беларуска-літоўскія кансультацыі паміж МЗС па праблематыцы "Усходняга партнёрства". Дарэчы, з літоўскага боку ў іх удзельнічалі дырэктар дэпартамента Усходняга суседства Эдмінас Багдонас (былы амбасадар Літвы ў Беларусі).

Крыху раней у Мінску пабывала дэлегацыя Савета Еўропы на чале з кіраўніком кабінета генеральнага сакратара СЕ Б'ёрнам Бергам. Прычым актывізацыя на заходнім накірунку назіраецца з сярэдзіны снежня. Так, 17 снежня кіраўнік беларускай дыпламатыі прыняў дырэктара дэпартамента Расіі, краін "Усходняга партнёрства", Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунара Віганда. У той жа дзень адбылася тэлефонная размова з кіраўніком МЗС Чэхіі Карэлам Шварцэнбергам. Праз некалькі дзён па чарзе прайшлі сустрэчы міністра з амбасадарамі Фінляндыі, Эстоніі і Вялікабрытаніі.

Пра што гаварылі? Зразумела, пра наладжванне двухбаковых і шматбаковых стасункаў на заходнім накірунку. Але свайго патрабавання Еўропа не здымае: вызваленне палітвязняў застаецца абавязковай умовай для размарожвання беларуска-еўрапейскіх адносін. Прычым усе краіны-члены ЕС прытрымліваюцца гэтага патрабавання.

Уладзімір Макей проста марнуе час ці ведае, што Аляксандр Лукашэнка ўсё-такі гатовы вызваліць палітвязняў, але для гэтага павінна з'явіцца пэўная нагода?

**Алена НОВІКАВА.**

НАДВОР'Е

## *Пацяпленне не чакаецца*

*У Беларусі пачынаецца самы халодны перыяд зімы*

*"Скандынаўскі халодны антыцыклон прынясе ўзмацненне маразоў. Сярэднясутачная тэмпература паветра будзе на 5—10 градусаў ніжэй за кліматычную норму",* — заявіл начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

У сераду і чацвер будзе без істотных ападкаў, толькі ў паўднёвых раёнах кароткачасовы снег. Тэмпература паветра ноччу -13...-20°С, пры праясненнях да -25°С, па паўднёвым захадзе ноччу -10...-19°С. Тэмпература паветра днём -7...-14°С, месцамі да -14°С.

У пятніцу, суботу і нядзелю ў асобных раёнах невялікі снег, месцамі слабы туман, шэрань, на асобных участках дарог галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу -15...-22°С, пры праясненнях -23...-27°С. Днём -8...-13°С, месцамі -14...-17°С.

Як паведаміў Рабаў, па папярэднім прагнозе, такое надвор'е захаваецца да канца студзеня.

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# «Дзяржаўны» розум

Дзе яшчэ, у якой краіне на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе можна пабачыць стратэга з такім узроўнем дзяржаўнага мыслення?

*"Вы кажаце, што нешта трэба рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзём плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі".*

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне.

*"Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзе назіраецца перавытворчасць кадраў, але моладзь гэтая акалічнасць мала турбуе, пралічвайце сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывём ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму".*

Не хапае грошай на развіццё пазашкольнай адукацыі? У яго, стратэга, гатова "выдатнае" рашэнне.

*"Калі ёсць добры праект у цэнтра пазашкольнай работы, напрыклад, дзіцячы ансамбль, то для яго заўсёды знойдзецца бюджэтнае фінансаванне. А жаданне займацца бодзі-артам, чэрлідынгам, пляценнем кос, казкаскладальніцтвам і кулінарыяй павінна задавальняцца за кошт сродкаў бацькоў, а не за кошт бюджэту".*

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся — стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і балючую праблему павышэння заробкаў выхавацелям дзіцячых садкоў.

*"Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі працэнт ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу".*

Усе вышэйпрыведзеныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек — намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, **Анатоль Афанасьевіч Тозік**. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі *"выпраўлення сітуацыі"* і *"паляпшэння жыцця людзей"*. Але ад усіх хвароб у яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека.

Напэўна, з гісторыі спадар Тозік засвоіў толькі савецкі перыяд, калі ў грамадстве панаваў прынцып: "Калі ты нешта вінен дзяржаве, то хоць памры, але заплаці; калі дзяржава нешта абяцала табе, то хоць памры, але забудзься пра гэтыя абяцанні". Ды і то засвоіў часткова. Бо ўсё ж такі ў лепшыя савецкія часы перш, чым нешта забраць у людзей, ім часта нешта і давалі.

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што заняткі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць — жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, — гэта адна праблема. Але ж галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць няблага, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняю рэчаіснасць, спашлюся на нядаўні матэрыял "Гомельскай праўды" (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна. "Колькі зарабляеце ў месяц?" — запыталіся начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: "За 320 рабочых гадзін — 1 мільён 300 тысяч рублёў".

Вы ўяўляеце, што такое 320 рабочых гадзін? Гэта болей чым па 10 гадзін штодзённа, без выхадных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя садкі, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей увогуле павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя заняткі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: "Плаціце, плаціце, плаціце..."

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзеці даўно ходзяць у камерцыйныя садкі, спецыяльныя школы і прыватныя медыцынскія цэнтры. Але ці задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў няма?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя расходы (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратур, міліцыі, КДБ і т.п.) у 2006 годзе складалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе — ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м — толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць хібаў у тым, што чыноўніцтва і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы на сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных — процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі "дзяржаўны розум" спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хаця ў любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць...

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# «Крысы под нашим домом свой проспект прорыли...»

*Пока в Минске будто грибы после дождя растут развлекательные центры и пятизвездочные гостиницы, возводимые китайскими и арабскими инвесторами, некоторые минчане продолжают жить в бараках. В некоторых случаях — с печным отоплением, без воды. И выбраться с этой обочины жизни даже в нашем якобы социально ориентированном государстве не так-то просто.*



## Государственные крысы и «народная власть»

Открывая новые станции столичного метро, президент назвал их "подземными дворцами для простого народа". Рядом с одним из таких "подземных дворцов", недалеко от станции "Грушевка", под прикрытием элитного жилья расположился целый квартал деревянных бараков. Даже тот, что уже заколочен, не пустует — оттуда мне навстречу вышла группа замерзших и похмельных бродяг. В остальных живут самые разные люди, кто беднее, кто богаче, но в любом случае не настолько богатые, чтобы отсюда съехать.

За чаем мы разговорились с Владимиром Ивановичем, жителем одного из таких бараков на улице Папанина. Он извинился, что не может предложить к чаю бутербродов — до зарплаты еще далеко. Барачный квартал должны были снести к декабрю 2012 года, но теперь снос отложен на неопределенное время. *"Поэтому остаемся по-прежнему в 1936 году. Именно тогда этот дом построили. Здесь еще большевики жили. И мы живем. Все гниет, разваливается. Если дети сверху бегают, кажется, сейчас потолок обрушится. А это вы еще их не слышали, когда они туфли на каблуках надевают!* — смеется Владимир Иванович. — *Воду на плите нагреваем, моемся в тазике. Я жене спинку потру, она мне. Вот такая у нас эротика".*

*"Здесь фильмы ужасов можно снимать,* — продолжает мой собеседник. — *Отдыхаю я на диване, вдруг чувствую — кто-то по мне ползает. Полегче собаки, но тяжелее кошки. Дернулся, на полу визг, возня. Кинул туда тапком, слышу — тапок потащили. Я со злости второй тапок вдогонку швырнул. Потом жалко стало тапок, кинулся отбирать. Крысы это были, конечно. У них под нашим домом свой проспект проходит, они не зависят ни от кого... ЖЭС как-то отказывался их травить. Мол, ваши крысы — вы с ними и разбирайтесь. Э, нет, говорю, дом государственный — значит, крысы тоже государственные. Потравили. Но они, заразы, живучие, снова объявились. Мы кошку недавно подобрали, только от крыс она не помогает. Ее саму от них спасать надо. Смех смехом, а в соседнем подъезде они ребенка маленького покусали".*

Владимир Иванович не сосредотачивается на частных проблемах. Видно, что ему хочется поговорить вообще "за жизнь". Простой рабочий, он рассуждает на темы, которые считаются интеллигентскими, народу не интересными. О диктатуре и демократии, Великом Княжестве Литовском и национализме.

*"У нас же власть народная,*— рассуждает он. — *В смысле, если что идет не так, сразу народ виноват. Вот и мы, выходит, как будто виноваты, что живем в этом бараке. Не заработали, значит, на лучшее жилье. Если бы я мог в свои 26 вернуться, когда мы сюда вселились, то заработал бы. Но туда уже не вернуться... Раньше я в Сибирь на заработки ездил, строил там города, откуда мы сейчас нефть получаем, огромные деньги привозил. А государство только и делало, что меня, да и нас всех, грабило. До трусов раздело. Сколько раз уже все сбережения сгорали! Теперь они нас винят, что мы по 5—10 долларов покупаем. Пусть винят, я им больше не верю, хватит".*

С тех давних времен, когда Владимир Иванович стал в очередь на улучшение жилищных условий, его семья с трех человек выросла до девяти. Он говорит, что какой-то мелкий чиновник бросил по этому поводу: мол, расплодились как тараканы. *"Я ему тогда отвечаю: точно, травите нас здесь всех дустом, как тараканов, дешевле выйдет",* — говорит мужчина.

В соседнем подъезде, где крысы покусали ребенка, жильцы из разных квартир собрались вместе на лестнице, будто на деревенской лавочке. Тоже вспоминают последнюю пресс-конференцию президента, в частности, эти злосчастные "5—10 долларов", которые они тоже покупают. *"Совсем он уже от народа оторвался, если не понимает, зачем они нам",* — говорят.

Им есть на что жаловаться: потолки сырые, просевшие, буквально лежат на шкафах, двери косые, полы проваливаются, штукатурка сыплется. Когда работает стиральная машина-автомат, весь дом ходит ходуном. Если на втором этаже на пол прольют воду из вазы для цветов, вся вода обязательно будет на первом. На лестничной площадке, чтобы потолок не рухнул им на головы, мастера поставили доску снизу, доску сверху, а посередине столб. "Шикарный ремонт, на века", — язвит молодой человек.

Тем не менее Людмила Николаевна, самая старшая из присутствующих, заранее тоскует о том, что когда-нибудь придется разъехаться со своими соседями. *"Был бы этот барак покрепче, ни за что бы отсюда не уехала. Мы же здесь одной большой семьей живем, ходим друг к другу, как к себе домой, всегда есть кому помочь, поддержать".*

Людмила Николаевна встречает меня как гостя, знакомит со своей собакой — игривым лабрадором с добрейшими детскими глазами. Показывает цветы, особенно любимую фиалку. На дорогу дает сушеной рыбы. Атмосфера здесь по-хорошему деревенская. Хотя у всех компьютеры, легко могут "загуглить" необходимую информацию. Одним словом, полностью опровергают существующий стереотип о жителях бараков как о социально отсталой группе, темных и неразвитых людях.

Вроде пришел поговорить о проблемах, а сам будто отдохнул душой. Как ни в одном элитном доме, возможно, не отдохнул бы.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Не здрадзім!

Разумеем, у якім цяжкім фінансавым становішчы знаходзяцца многія чытачы "Народнай Волі". Аб гэтым сведчыць той факт, што некаторыя змаглі падпісацца на газету толькі на адзін месяц — студзень. Таму, каб атрымліваць "Народную Волю" ў лютым і ў наступныя месяцы, трэба ў бліжэйшыя дні, да 27 студзеня, прадоўжыць падпіску.

Рэдакцыя газеты даражыць сяброўствам з кожным з Вас, шаноўныя чытачы. Не здрадзім і на гэты раз!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# «Крысы под нашим домом свой проспект прорыли...»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## Барак с видом на Дом правительства

В домах №17А и №21 по улице Карла Либкнехта обстановка совсем не такая благостная. Поначалу здешние жильцы побаивались говорить с журналистом. *"Вы статью напишете, так нас вообще с землей сровняют в отместку",* — высказывает опасения Людмила Борисовна Ермольчик. Но потом собравшихся вместе на квартире Людмилы женщин, жительниц 21-го дома, было не унять. Говорили эмоционально, перебивая друг друга, споря. Изредка в разговор вмешивался хозяин квартиры, покрикивая на женский батальон: *"Дамы, давайте лаконичнее и по существу!"*

Если лаконично и по существу, то жильцов "элитного" (с видом на Дом правительства!) барака беспокоит, не окажутся ли они, прожившие всю жизнь в центре города, в результате улучшения жилищных условий где-нибудь в Шабанах. Получат вторичные квартиры, где придется изрядно потратиться на ремонт. Жильцы соседнего барака, который сейчас почти целиком расселен, говорят, оказались в такой ситуации. *"Но им деваться некуда было, там же вообще кошмар. Иногда, чтобы, простите, воду в унитазе слить, приходилось паяльной лампой трубу отогревать. XXI век на дворе, а у них отопление печное до сих пор... У нас еще ничего, мы бы и здесь могли остаться, если на то пошло",* — говорят женщины.

Когда только возник вопрос о сносе и расселении, жильцы этих центральных бараков обрадовались. Им вроде бы повезло — землю купил богатый инвестор, компания "Трайпл", расходы по сносу зданий и обеспечению новым жильем людей ложились на нее. Частник не скупился, на эти цели им было выделено около двух миллионов долларов. Поделив эту шкуру неубитого медведя, жильцы прикинули, что смогут переселиться в хорошие квартиры, оставаясь в центре города. Но "Трайпл" по каким-то причинам отложил проект строительства на этом месте (предположительно очередной гостиницы). Деньги выделялись городу, и вопросом расселения теперь ведают районные власти. И они уже говорят о значительно более скромных суммах. При прохождении разных инстанций увесистый денежный мешок отощал. В общем, радужные перспективы, которые рисовали себе жильцы, тают на глазах.

Они переживают, что у них не будет времени противостоять решению властей, если оно окажется невыгодным. В течение этого года, как им сказали, бараки должны быть убраны, чтобы не мозолили глаза иностранным гостям чемпионата мира по хоккею.



## Непокоренные

На отрезке улицы Нововиленской, параллельном Старовиленскому тракту, двухэтажные бараки 1950-х годов постройки уже расселены. Сами здания пока продолжают стоять — давно запланированное масштабное строительство элитного микрорайона откладывается. Окна первых этажей заколочены ржавым железом, подъезды опечатаны и закрыты навесными замками. Но дверь в один из них приоткрыта. Заглядываю: может, бомжи устроились на зимовку? Неприятно щекочет ноздри затхлый запах оставленного жилья, где-то на пол течет вода. Квартиры на первом этаже пусты. По скрипучей, прогибающейся под ногами лестнице поднимаюсь на второй. Почти машинально нажимаю кнопку звонка на двери, за которой раздаются какие-то звуки жизни, не думая, что меня может за ней ждать. Мне открывает коренастый крепыш. Мы оба одинаково смущены и удивлены. "А что вы здесь делаете?" — довольно глупо спрашиваю я. "Да вот живу тут", — отвечает парень. Живет вместе с родителями. Исправно платят коммунальные платежи. Он связывает меня по телефону со своей сестрой, чтобы она объяснила, как это получилось, что их семья осталась одна на целой улице. Алеся, так зовут сестру, предлагает приехать на улицу Тикоцкого, где она сейчас живет с мужем и маленьким ребенком. *"Я только что родила, поэтому сама не могу выезжать. Вас должна заинтересовать наша история. С некоторым даже детективным оттенком",* — добавляет молодая женщина. Заинтригованный, охотно соглашаюсь.



В Зеленом Луге ее семье разрешили поселиться родственники мужа. Если бы не они, им пришлось бы ютиться на 43 квадратных метрах в этом заброшенном доме — с родителями, братом и младенцем. Без ванной комнаты и туалета. Что поделаешь, другого своего жилья у них нет.

Вообще, все жильцы должны были быть выселены отсюда еще в 2010 году. Процесс затянулся из-за того, что на обитателях бараков решили сэкономить. Согласно указу президента №58 от 2 февраля 2009 года "О некоторых мерах по защите имущественных прав при изъятии земельных участков для государственных нужд", при отселении граждан, проживающих в жилых домах, подлежащих сносу, им полагается выделить жилье, исходя из расчета не менее 15 кв. метров на самого собственника и каждого члена его семьи. Однако местные власти все переиграли, решив расселить их по статье 105 Жилищного кодекса Республики Беларусь. По ней, если гражданин проживает в доме, который находится в аварийном состоянии или грозит обвалом, то ему совместно с членами его семьи предоставляется в собственность жилое помещение, равное по метражу. Иными словами, семье Алеси пришлось бы переехать на те же 43 квадратных метра.

Поскольку заключения комиссии об аварийном состоянии домов не было, многие жильцы воспротивились новому варианту расселения, как незаконному. Что тогда сделали власти? Взяли в оборот заводилу этой группы рассерженных горожан. По словам Алеси, ему как раз удалось значительно улучшить свои условия. Взамен он отозвал свое заявление и призвал остальных жильцов к примирению. Группа распалась. Не мытьем, так катаньем людей уговорили пойти на уступки. Только Алесина семья, будучи уверенной в своем праве, последней держит оборону в доме №5 по улице Нововиленской. Надеясь, что упорным улыбается счастье.

## Дом-призрак

В доме по улице Запорожской, 24 нет не только ванной комнаты и туалета, здесь нет даже воды. В туалет приходится ходить за триста метров, а воду брать из колонки на улице. Из благ цивилизации есть только электричество и отопление. Для остающихся здесь людей существует только два варианта сменить место жительства: переехать на кладбище или купить новое жилье за собственные сбережения. Власти сносить и расселять дом не собираются. Потому что формально его... не существует. По словам жителей, он числится снесенным. *"С дороги нас не видно, так никому и дела нет",* — говорят они. Обойдя все инстанции, которые отфутболивали их друг другу, жильцы устали от бюрократической волокиты и смирились со своим положением. Для тех, кто помоложе, это незавидное положение стало стимулом к перемене участи. Так, 37-летний Андрей Пархомчик переквалифицировался из обходчиков железнодорожных путей в индивидуальные предприниматели. Построил для себя и своей семьи квартиру. Ну а тем, кому переквалифицироваться поздно, остается доживать остаток жизни в условиях, приближенных к условиям XIX века...

**Дмитрий ГАЛКО.**

КАДРЫ

## *Анатолий Кулешов на скромной должности*

Бывший министр внутренних дел Беларуси генерал-лейтенант милиции в запасе Кулешов занял скромную должность советника в Исполнительном комитете Содружества Независимых Государств, офис которого находится в Минске. Напомним, что **Анатолий Кулешов** возглавлял белорусскую милицию с апреля 2009 года. В мае 2012 года Александр Лукашенко освободил его от должности министра внутренних дел зачислением в распоряжение МВД. По официальной версии, увольнение было связано с тяжелой болезнью Кулешова.

РЭГІЁНЫ

## *Бліжэй да Захаду — даўжэй жыццё*

Гродзенская вобласць лідзіруе ў Беларусі па колькасці доўгажыхароў. Як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, у Гродзенскай вобласці на 1 студзеня гэтага года налічвалася 111 чалавек ва ўзросце больш за 100 гадоў. Брэсцкая вобласць на другім месцы — там 100 доўгажыхароў, на трэцім — Мінская вобласць і яе 94 чалавекі. У Беларусі, як і ў іншых краінах, сярод доўгажыхароў больш жанчын. Бабулек, чый узрост пераваліў за сотню, у Беларусі 489 і толькі 73 дзядулі. Дарэчы, ва ўзроставай катэгорыі старэй за 110 гадоў увогуле адны жанчыны.

## *Як затрымаць спецыяліста...*

У Касцюковічах адкрыўся клуб "Малады спецыяліст", дзе будуць "забаўляць" тых, хто трапіў у горад па размеркаванні.

Згодна са статыстыкай, у 2012 годзе ў Касцюковіцкім раёне да работы прыступілі каля 200 маладых спецыялістаў. Частка з іх — маладыя людзі, што вымушаны адпрацоўваць размеркаванне. Вядома, сілком прывязаныя да працы яны зрываюцца з месца, як толькі сканчваецца тэрмін іх адпрацоўкі. Ці зможа новы клуб зрабіць раён больш прывабным для моладзі — пакажа час .

## *Пад пагрозай... лазні*

Думаеце, санітарная катастрофа — сітуацыя, якая ўласцівая толькі для афрыканскіх краін? Беларускаму райцэнтру Крычаву да тропікаў, як да Луны, але і тут наспявае праблема з гігіенай. У райцэнтры ўсяго тры лазні.

Дзве належаць крычаўскаму "Камунальніку". Абодва будынка не тое што адрамантаваць трэба, а, па-добраму, знесці і пабудаваць на іх месцы новыя лазні. Тое, можа, і добра, але фінансавання няма. Ёсць і яшчэ адна лазня — новая. Але наведваць яе многія баяцца: усё сыплецца...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ФОТАФАКТ



**Супрацоўнікі МНС збіваюць лядзяш з даху дома №19 па вуліцы Кісялёва ў Мінску.**

## *Беларусы ездзяць у Літву за дарагім адзеннем?*

*Улетку ў Мінску плануецца адкрыць спраектаваны аўтарамі літоўскага "Акрапаліса" гіпермаркет "Скала".*

Гандлёвы цэнтр стане даволі буйным — 38 тысяч квадратных метраў. Ключавымі крамамі гандлёвага цэнтра стануць прадуктовы гіпермаркет GREEN і гіпермаркет спартыўных тавараў INTERSPORT. Інвестыцыйная група РАПА паведаміла, што вядзе перамовы з такімі ўладальнікамі брэндаў, як BENETTON, GUESS, CALVIN KLEIN, TOMMY HILFIGER, DEICHMANN.

Інвестар лічыць, што менавіта за гэтымі брэндамі беларускія пакупнікі сёння імкнуцца ў Літву. На яго думку, дзякуючы "Скале" мінчане змогуць адмовіцца ад звычкі ладзіць цікавы, але стомны шопінг у гандлёвых цэнтрах сумежных краін.

ДЫСКУСІЯ

# Спадар Ляўковіч, да вас пытанні...

У "Народнай Воле" за 4 студзеня 2013 года быў надрукаваны праграмны артыкул Анатоля Ляўковіча "Пачынаем палітычную мадэрнізацыю". Спадар Ляўковіч даўно замацаваў за сабой ролю аднаго з ініцыятараў стварэння так званай канструктыўнай апазіцыі, якая павінна, паводле ягоных жа слоў, *"наладзіць дыялог з уладай"* і *"падзяліць з ёй палітычную адказнасць за сітуацыю ў краіне".* І калі раней само паняцце "канструктыўная апазіцыя" было надзвычай нявызначаным, аморфным і проста незразумелым нават для палітычных актывістаў, то зараз дзякуючы ўжо згаданаму артыкулу мы нарэшце атрымалі хай яшчэ не дасканалае, але хоць нейкае ўяўленне пра пазіцыю і светапогляд яе лідараў.

Адзін з асноўных пунктаў сваёй палітычнай праграмы "канструктыўшчык" Ляўковіч акрэслівае як *"няўхільнае выкананне нормаў сістэмных палітычных паводзін".* Такім чынам, ён поўнасцю і без агаворак прымае як цалкам легітымны і законны жорсткі аўтарытарны рэжым, які быў створаны ў Беларусі ў выніку рэферэндуму 1996 года. Пры гэтым ён раз за разам супрацьпастаўляе сябе і нейкіх таямнічых *"прадстаўнікоў канструктыўнага крыла апазіцыі"* з *"апазіцыйнымі радыкаламі",* якія, паводле яго сцвярджэнняў, прапаведуюць "ультрарэвалюцыйныя" ідэі. Але ён не называе ні канкрэтных імён, ні назваў структур, якія ўвасабляюць такія шкодныя, па меркаванні Ляўковіча, *"радыкальныя"* падыходы ў палітыцы і шкодзяць *"фарміраванню новай — дыялагічнай — мадэлі адносін паміж палітычным рэжымам і яго апанентамі".*

Вельмі яскравай ілюстрацыяй да тэзіса пра *"гатоўнасць улады да дыялогу"* з'яўляецца артыкул Аляксандра Ярашука "Схадзілі...", змешчаны ў тым жа нумары "Народнай Волі". Што яшчэ і каму трэба тлумачыць? Рэжым Лукашэнкі не гатовы нават да самага мінімальнага — размовы *"вочы ў вочы"* аб набалелых актуальных праблемах. Тым больш што Аляксандр Ярашук зусім не з асяродку *"радыкалаў".* Наадварот — адстойвае пазіцыю няўдзелу незалежных прафсаюзаў у актыўнай палітыцы. Дык калі рэжым не хоча размаўляць нават па такім важным для ўсіх без выключэння беларусаў пытанні, як абарона сацыяльных правоў, то няўжо ён пачне рэальную *"палітычную мадэрнізацыю"* і запросіць Ляўковіча, які нават не здолеў утрымацца ў роднай партыі, ці іншых прадстаўнікоў *"канструктыўнай апазіцыі"* за стол перамоў, каб падзяліцца ўладай? На якім вы свеце, спадар Ляўковіч? Вы самі верыце ў тое, што кажаце?

Лічу пазіцыю спадара Ляўковіча абсалютна непрымальнай. Больш таго — надзвычай шкоднай і наскрозь фальшывай. А дзейнасць самога спадара Ляўковіча, самаабвешчанага *"бацькі беларускай сацыял-дэмакратыі"* (так і напрошваецца аналогія з гумарыстычным персанажам Ільфа і Пятрова з рамана "12 крэслаў" Кісай Вараб'янінавым — "бацькам рускай дэмакратыі"), ацэньваю як імкненне трапіць у абойму рэжыму, заняўшы месца штатнай апазіцыі, атрымаць фінансаванне і матэрыяльныя бонусы. І гэта выглядае яшчэ больш амаральным, таму што спадар Ляўковіч прыкрываецца прыгожымі і правільнымі фразамі пра лёс краіны і народа.

Але спачатку трэба разабрацца з вельмі важным пытаннем і вызначыць сэнсавае значэнне тэрміна *"радыкал",* якім так палохае чытачоў "Народнай Волі" спадар Ляўковіч. Непадрыхтаваны і недасведчаны ў беларускіх палітычных раскладах чалавек адразу намалюе ў галаве страшную, амаль апакаліптычную карціну "забурэнняў", што рэгулярна здараюцца ў Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі ці Грэцыі — пратэстоўцы з чорнымі і чырвонымі сцягамі, у матацыклетных шлемах, узброеныя бітамі, камянямі, балончыкамі з газам і самаробнай выбухоўкай ідуць у наступленне, разбураючы ўсё на сваім шляху, палячы машыны, рабуючы крамы... Б-р-р-р-р... Ну які нармальны чалавек хоча, каб да ўлады прыйшлі гэтыя самыя *"радыкалы"* і пачалі наводзіць свае парадкі?! Я таксама не хачу. Але ж тут відавочная падмена паняццяў.

На вуліцы Парыжа, Берліна, Лондана і Афін выходзяць і ладзяць пабоішчы маргінальныя палітычныя групоўкі, якія ў масе сваёй прапаведуюць ультраправую ці ўльтралевую ідэалогію, якая не карыстаецца папулярнасцю і падтрымкай у абсалютнай большасці еўрапейцаў. Як вынік — правал адпаведных партый на сумленных і празрыстых выбарах розных узроўняў. Таму гэтыя *"радыкалы"* (хаця, на мой погляд, гэта звычайныя хуліганы і дэбашыры, ад якіх пакутуюць простыя грамадзяне) і выкарыстоўваюць любыя нагоды і зачэпкі, каб запусціць хвалю анархіі на вуліцах еўрапейскіх сталіц, ведаючы, што да іх далучацца крымінальныя і асацыяльныя элементы, каб выкарыстаць момант і пагрэць рукі, забяспечыўшы масавасць выступленняў.

А зараз давайце паглядзім і разбяромся, каго называюць *"радыкаламі"* сённяшнія беларускія ўлады. Бо менавіта ў лукашэнкаўскую сістэму, высалапіўшы язык, так імкнецца *"ўбудавацца"* спадар Ляўковіч са сваімі паплечнікамі.

Удзельнічаючы ў меру сваіх сіл і здольнасцяў у грамадскім жыцці, а таксама папрацаваўшы ў розных якасцях (збор подпісаў, распаўсюджванне інфармацыйных матэрыялаў, назіранне) за прамінулыя 10 год ці не ва ўсіх палітычных кампаніях пад назвай *"выбары",* магу з усёй адказнасцю заявіць, што для лукашэнкаўскага рэжыму *"радыкал"* — гэта актыўны ў грамадскім і палітычным плане чалавек з выразнай грамадзянскай пазіцыяй, які не баіцца змагацца за свае правы і патрабуе ад органаў улады выканання закона. Адчуваеце розніцу?

Для лукашэнкаўскага рэжыму нават адмова ад прымусовай падпіскі на "Советскую Белоруссию" ўжо радыкалізм, ледзь не злачынства супраць дзяржавы! А ўявіце, калі прынцыповы і актыўны чалавек у раённым цэнтры (у поўнай адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам!) вырашыць вылучацца ў сябры выбарчай камісіі ад апазіцыйнай партыі ці пойдзе працаваць назіральнікам, напрыклад, ад кампаніі "За справядлівыя выбары"! Ды на наступны ж дзень у яго на працы (вучобе) з'явіцца супрацоўнік карных органаў з прапановай адмовіцца ад *"антыдзяржаўнай дзейнасці".*

Адкуль жа ў такіх умовах з'явіцца грамадзянскай супольнасці, на слабасць якой, дарэчы, наракае ўсё той жа Ляўковіч, абгрунтоўваючы сваю канфармісцкую пазіцыю ў адносінах да дзеючага рэжыму? І як пад такім прэсінгам могуць з'явіцца моцныя апазіцыйныя палітычныя партыі ці масавыя незалежныя прафсаюзы, калі людзей гвалтам прымушаюць з іх выходзіць, шантажуючы, напрыклад, скасаваннем кантракта, які як пятля на шыі кожнага беларуса.

Атрымліваецца, што спадар Ляўковіч выступае за кансервацыю існуючага становішча. Ён адкрытым тэкстам кажа, што хоча працаваць у сістэме, хаця яна, па маім меркаванні, заснавана на беззаконні і штодзённым прыніжэнні чалавека ва ўсіх сферах жыцця, а не толькі ў палітыцы. Пры гэтым ён збіраецца абапірацца на чатыры сфармуляваныя ім прынцыпы, самым важным з якіх, на мой погляд, з'яўляецца наступны: *"Кансэнсус — згода і гатоўнасць не вылучаць умовы, якія з'яўляюцца невыканальнымі ў дадзены момант".*

Гэта, як кажуць, момант ісціны. Бо што ўлады лічаць невыканальнымі ўмовамі, напрыклад, падчас правядзення выбарчых кампаній? Як агню, улады баяцца ўключэння прадстаўнікоў апазіцыйных структур (зведаў на асабістым вопыце) у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, адкрытага і празрыстага падліку галасоў. Улады фактычна пазбаўляюць сваіх апанентаў роўных магчымасцяў вядзення агітацыйнай кампаніі, выкарыстоўваючы самыя брудныя метады з удзелам сілавых структур (агромністыя штрафы, адміністрацыйныя арышты па лжывых абвінавачаннях, фізічны гвалт і крымінальныя справы з далейшым турэмным зняволеннем). А выбары ж, калі кіравацца цвярозым розумам, і павінны вызначаць жыццё краіны на наступныя пяць год. Бо менавіта падчас выбараў грамадзяне дэлегуюць уладу (згодна з Канстытуцыяй адзінай крыніцай улады з'яўляецца менавіта народ) той ці іншай палітычнай сіле.

У схеме Ляўковіча народ і выбары адсутнічаюць як такія. Ён прымае рэжым як дадзенасць, як нешта боскае, сакральнае. Як пры такім падыходзе ўвогуле можна казаць пра нейкія станоўчыя змены ў сферы грамадскіх адносін?

Прапаную спадару Ляўковічу адумацца і зразумець: тое, што ён называе для сябе словам *"радыкалізм",* — гэта не што іншае, як здаровая палітычная барацьба, адстойванне сваіх правоў і свабод, замацаваных у Канстытуцыі. А "радыкалы" — гэта ніякія не ворагі, якія, як сцвярджае аўтар артыкула, дзеля сваіх карыслівых палітычных мэт працуюць супраць "маладой беларускай дзяржавы", не міфічныя баявікі з дрэнна скляпаных БТшных агітак. Гэта палітычна актыўныя, адказныя за сваю краіну грамадзяне, якія жадаюць бачыць яе ў сям'і цывілізаваных еўрапейскіх краін. Яны ахвяруюць сваім дабрабытам, здароўем, а нярэдка і жыццём дзеля таго, каб Беларусь стала дэмакратычнай дзяржавай.

**Дзяніс РАБЯНОК, грамадскі актывіст.**

*г.Калінкавічы.*

ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# Міфічныя мільёны...

Больш за два гады мінула пасля падзей 19 снежня 2010 года, а яны ўсё яшчэ нагадваюць аб сабе. Днямі Андрэя Дзмітрыева, кіраўніка выбарчага штаба Уладзіміра Някляева, выклікалі ў КДБ і вярнулі грошы, якія ў яго забралі падчас вобшукаў.

Нагадаем, што масавыя арышты пасля прэзідэнцкіх выбараў улады апраўдвалі паказам розных страшылак то пра нейкія арсеналы зброі, якія нібыта захоўваліся ў адным з гаражоў на ўскраіне сталіцы, то пра нейкія змовы з заходнімі спецслужбамі экс-кандыдатаў і сябраў іх штабоў. Для нагляднасці дэманстраваліся пачкі еўра і долараў, якія нібыта знайшлі ў кандыдатаў на пасаду прэзідэнта і іх паплечнікаў падчас арыштаў і вобшукаў. Скарыстаўшыся тым, што грашовая тэма зноў усплыла, мы вырашылі высветліць, якія ж сумы на самай справе былі знойдзены ў палітыкаў падчас тых падзей.

Як высветлілася, сума, якую ў снежні 2010 года знайшлі ў Андрэя Дзмітрыева і зараз вярнулі, зусім не астранамічная. Асабліва з улікам таго, што Андрэй мае бізнес ва Украіне. Гэта 400 злотых, 100 долараў, каля 4 тысяч расійскіх рублёў і 850 эстонскіх крон, на якія, дарэчы, сёння ўжо нічога не купіш, бо Эстонія перайшла на еўра.

Можа, сам кандыдат на пасаду прэзідэнта меў больш стратэгічных прыпасаў для змены ўлады, чым кіраўнік яго штаба? Задаем пытанне пра грошы Уладзіміру Някляеву.

Экс-кандыдат толькі смяецца:

*— У мяне быў аўтарскі ганарар і афіцыйная даведка аб яго памеры. Я за свае вершы атрымаў каля 700 тысяч рублёў. У маёй жонкі знайшлі прыкладна столькі ж. Гэткія грошы нават забіраць не сталі. А ў "амерыканку" я трапіў зусім без грошай, бо мяне ж забралі са шпіталя.*

У экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Алеся Міхалевіча, як паведаміла нам ягоная жонка Мілана, знайшлі: 3 украінскія грыўны, 32.280 рублёў і 5 долараў. Самае цікавае, што 3 грыўны і беларускія грошы палітыку вярнулі, калі выпускалі са следчага ізалятара КДБ пад падпіску аб нявыездзе, а вось 5 долараў пакінулі сабе. Навошта? Магчыма, гэта нейкая важная ўліка ў крымінальнай справе, якая дагэтуль працягваецца. Калі ў іншых справах пасля суда даўно пастаўлена кропка, то ў справе Міхалевіча — пакуль шматкроп'е. Палітык у Чэхіі мае статус палітычнага ўцекача, а ў Беларусі — абвінавачанага.

У экс-кандыдата Віталя Рымашэўскага знайшлі каля 100 тысяч рублёў. Палітык узгадаў:

*— Мяне забралі са шпіталя, куды я звярнуўся па дапамогу, бо быў збіты падчас разгону Плошчы. Калі мяне выпускалі з "амерыканкі", то вярнулі ўсе рэчы: каля 100 тысяч рублёў, ключы, шнуркі, нацельны крыжык і шлюбны пярсцёнак. Так што ўсе тыя выказванні пра грашовыя сродкі стаяць у адным пераліку з гісторыямі пра нейкую віртуальную зброю.*

У экс-кандыдата Мікалая Статкевіча было каля 100 тысяч рублёў. Пра гэта нам расказаў ягоны сябар Алесь Арэстовіч, які ў тую ноч таксама трапіў у следчы ізалятар КДБ.

*"Я таксама меў пры сабе каля ста тысяч рублёў на ўсялякі выпадак — на таксі ці яшчэ на нейкія непрадбачаныя расходы. Наколькі я ведаю, у Міколы Статкевіча была прыкладна такая ж сума. Калі я быў за кратамі, то нейкая жанчына даслала мне 250 тысяч рублёў. Гэтымі грашыма, дарэчы, я так і не скарыстаўся там, у "амерыканцы". Потым, на волі, аддаў іх жонцы былога міліцыянера Аляксандра Класкоўскага, якая засталася адна з трыма дзецьмі. Мне сумленне не дазволіла патраціць гэтыя грошы на сябе. Яны ж і дасылаліся з мэтай падтрымаць палітвязня",* — расказаў спадар Алесь.

Экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Усс быў адным з тых, у каго грошай увогуле не знайшлі.

*— У мяне падчасператрусу забралі толькі камп'ютар. Яго потым вярнулі, але карыстацца ім больш нельга. Не ведаю, што яны там з ім рабілі. Быў нармальны рабочы камп'ютар, а цяпер ён не падлягае аднаўленню. Кучка смецця, адным словам. Што ж тычыцца грошай, то іх у мяне не было. Вось іх і не знайшлі.*

Дарэчы, як высвятляецца, не ва ўсіх затрыманых дома праходзілі вобшукі. Напэўна, спецслужбы добра ведалі, калі "пажывіцца" не будзе чым.

А вось кватэру Андрэя Саннікава і ягонай жонкі Ірыны Халіп ператрасалі не адзін раз.

*— Калі ішлі на Плошчу, мы ўзялі з сабой драбязу на ўсялякі выпадак. Не ісці ж з пустымі кішэнямі на вуліцу, а раптам спатрэбіцца таксі выклікаць ці гарачай кавы выпіць. А вось падчасператрусу ў нас дома знайшлі каля паўтары тысячы долараў. Такая сума, якая сёння амаль у кожнай сям'і знойдзецца ў "загашніку". Самае цікавае, што грошы нам вярнулі, але не тымі купюрамі. У нас забіралі дробнымі, а вярнулі "соткамі". Я так і не зразумела, навошта тады яны перапісвалі нумары кожнай купюры ў пратакол? Што яны з тымі грашыма рабілі? Можа, ім там самім патрэбныя дробныя для нейкіх спраў? Шчыра кажучы, да гэтай гісторыі я думала, што тое, што забіраюць падчас вобшуку, кладуць у нейкую ячэйку, як у камеру захоўвання, а потым усё адтуль вяртаюць. Аказваецца, не...*

А вось старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзьку даверанай асобе кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука, грошы дагэтуль не вярнулі. Сума, якую знайшлі падчасператрусу, не астранамічная, але і не маленькая — 10 тысяч долараў. Самае цікавае, што справу Лябедзькі нават да суда не давялі, закрылі. З другога боку, падатковая інспекцыя мае справаздачу Лябедзькі адносна гэтай сумы і прэтэнзій у яе няма. А грошы як забралі, так і не вяртаюць.

*— У іх застаюцца не толькі грошы, але і мае нататнікі, чатыры сшыткі запісаў, якія я вёў у "амерыканцы", іншыя рэчы, якія для мяне дарагія. Мне вярнулі толькі камп'ютар. Але пасля таго, як ён пабываў у іх руках, я ім не карыстаюся. І больш нічога. Яшчэ ў верасні 2011 года мне даслалі паперу аб тым, што супраць мяне спынена крымінальная справа і што ўсе рэчы мне вернуць. Але па сённяшні дзень так нічога і не вярнулі. Я падаваў скаргі на дзеянні супрацоўнікаў КДБ у пракуратуру, у Следчы камітэт, але іх вярталі назад у КДБ. А гэта структура што хоча — тое і робіць. Тут мае скаргі папросту ігнаруюць. На сённяшні дзень атрымліваецца, што мяне абрабавалі — уварваліся ў кватэру, забралі рэчы, грошы.*

Такім чынам, ніякіх мяхоў з грашыма ў экс-кандыдатаў і сяброў іх штабоў не было — ні дома, ні на Плошчы. Пры такіх сумах нават няёмка весці гаворку пра тое, што грошы раздаваліся людзям направа і налева. Даведкі з КДБ разбураюць чарговы міф пра фантастычныя грошы апазіцыянераў. Але наўрад ці пра гэта паведамяць беларускія тэлеканалы. Ёсць вялікія сумненні і наконт таго, што вінаватыя ў паклёпе папросяць у людзей прабачэння.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**З-ЗА КРАТАЎ**

## Статкевічу дазволілі бываць на свежым паветры паўтары гадзіны ў дзень

Былога кандыдата ў прэзідэнты ў Магілёўскай калоніі наведаў адвакат. Жонка палітвязня **Марына Адамовіч** паведаміла, што ён пачувае сябе бадзёра, на ўмовы не скардзіцца. Мікалай Статкевіч пасля невялікага змякчэння рэжыму атрымаў права на паўтары гадзіны шпацыру на свежым паветры ў дзень і выкарыстоўвае гэтае права цалкам і кожны дзень, паведаміла **Марына Адамовіч.**

Паводле яе звестак, Мікалай Статкевіч і ягоны сукамернік 15 студзеня слухалі па радыё прэс-канферэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. *"Мікалай пажартаваў, што паколькі Лукашэнка прадставіў яго гэткім злачынцам, то сукамернік "напалохаўся" і зараз будзе патрабаваць, каб кожны дзень, праведзены ў камеры са Статкевічам, залічваўся яму за 5 дзён"*, — расказала журналістам Марына Адамовіч.

Дарэчы, 19 студзеня споўнілася 86 гадоў бацьку Статкевіча — Віктару Паўлавічу.

**Галіна ГАНЧАРЫК.**

**СІТАУАЦЫЯ**

## Улады кампенсуюць маральны ўрон?

*У Горках 29-гадовая жанчына разам з мужам правалілася пад зямлю на адной з цэнтральных вуліц горада: "паплыла" плітка, якую будаўнікі паклалі да свята "Дажынак".*

Зараз жанчына кажа, што будзе патрабаваць кампенсацыі.

"У мяне нервовасць павышаная, — паведаміла БелаПАН пацярпелая. — Неўрапатолаг паставіў дыягназ "остэахандроз", псіхатэрапеўт — „вострая рэакцыя на стрэс". Вось па яе накіраванні іду ў бальніцу. Неўрапатолаг мне прапісала ўколы і таблеткі. Таблеткі заспакаяльныя, а ўколы — для пашырэння сасудаў, таму што пры падзенні і ад стрэсу яны, мабыць, звузіліся. Часам мяне хістае, губляецца каардынацыя, не атрымліваецца сканцэнтравацца — думкі бегаюць у розныя бакі.

Паводле слоў жанчыны, у яе таксама парушаны сон, апухла пятка, удараны хвасцец.

Жанчына ўспамінае, што плітка правалілася ў адзін момант і яна апынулася ў вадзе пад зямлёй. Праз імгненне побач апынуўся яе муж, які таксама праваліўся ў яму глыбінёй 1,7—2 метры. Яму, на шчасце, вада даходзіла да калена, ён выштурхнуў жонку з ямы і выбраўся сам. Збегліся людзі, потым прыбыла "хуткая дапамога", МНС, міліцыя, прадстаўнікі райвыканкама.

*"Мы жывём непадалёк ад таго месца, але дамоў трапілі толькі каля 20.20. Доўгія апытанні на вуліцы прывялі да таго, што мы абодва прастудзіліся, заразілі свякроў і двухгадовага сына. У мужа дагэтуль бранхіт"*, — сказала жанчына.

Пацярпелыя маюць намер патрабаваць ад улад кампенсацыю як матэрыяльнага, так і маральнага ўрону. Аднак пакуль здароўе не дазваляе шчыльна заняцца гэтым пытаннем.

**ЗВАНОК У РАЙВЫКАНКАМ**

## «Ніхто не адмаўляецца»

*"Пытанне трэба разглядаць і кампенсацыю выплачваць. Ніхто ад гэтага не адмаўляецца"*, — заявіў намеснік старшыні Горацкага райвыканкама **Уладзіслаў Яромін.** Ён патлумачыў, што яма ўтварылася ў выніку выцякання вады з пашкоджанай трубы, якую ўкладвалі 26 гадоў таму. Калі менавіта адбылося пашкоджанне і пачаў вымывацца грунт, вызначыць немагчыма. Пры замене пліткі летась да гэтых камунікацый не падбіраліся.

Яромін падкрэсліў, што кампенсаваць матэрыяльны ўрон павінна арганізацыя, на балансе якой знаходзяцца камунікацыі. У дадзеным выпадку гэта УКП "Цеплавая энергетыка". Пытанне маральнай кампенсацыі павінен вырашыць суд, адзначыў чыноўнік.

**ПОСТАЦІ**

# Каліноўскі — на ўсе часы!

## *Роўна 150 гадоў таму, з 22 на 23 студзеня 1863 года, узгарэлася паўстанне супраць расійскага царызму, якое ў Беларусі ўзначаліў Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі.*

Чаго хацеў, да чаго імкнуўся ўсёй душой гэты найінтэлігентны малады чалавек з сям'і збяднелага шляхціца на Гарадзеншчыне, якому ўдалося атрымаць адукацыю ў знакамітым Пецярбургскім універсітэце, але не страціць глыбіннай повязі са сваёй зямлёй, здольнасці чуць яе стогн пад бязлітасным уціскам царскіх улад, сэрцам адгукацца на бяду падманутых рэформай 1861 года сялян, іх бяспраўе і беспрасвецце? За вызваленне народа ад нявольніцкіх пут, незалежнасць і шчасную долю Бацькаўшчыны перш за ўсё паўстала яго душа. Даступнай кожнаму з тых, хто ўмеў хоць збольшага чытаць, звяртаўся ён па-беларуску да простых людзей у сваёй газеце "Мужыцкая праўда", даводзіў ім, што толькі ў свабоднай краіне, дзе будзе панаваць народная ўлада, людзі ўбачаць людскае жыццё, будуць мець сваю зямлю.

Не ўсе, не ўсе яго тады зразумелі. Шалёная антыпрапаганда з боку царскіх улад, абяцанне беззямельным сялянам нейкіх саступак у набыцці надзелаў, як супраціў ідэям Каліноўскага з боку землеўладальніцкай шляхты зрабілі чорную справу. Многія з сялян купіліся на новыя абяцанкі царскіх "милостей", не падтрымалі свайго вызваліцеля. І ў гэтым яго вялікі трагізм.

На тэрыторыю былога Вялікага Княства Літоўскага, заполоненага Расіяй пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1895 год) былі скіраваны буйныя сілы расійскіх войск, нечуваныя паўнамоцтвы атрымаў тут расійскі генерал-губернатар Мураўёў, апантаны ў бязлітаснай расправе з удзельнікамі паўстанцкага руху. У студзені 1864 г. Кастусь Каліноўскі быў высачаны ў віленскіх Святаянскіх мурах, схоплены і павешаны на Лукішскай плошчы ў Вільні. Смерцю былі пакараны 128 паўстанцаў-каліноўцаў, больш за 850 сасланы на катаргу, больш за 12 тысяч выселены, сотні сасланы на пасяленні ў Сібір. Іх сядзібы былі разбураны і канфіскаваны. Пачаўся разгул нястрымнай русіфікацыі, калі беларускія настаўнікі, дактары, землямеры і іншыя прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі былі адпраўлены ў цэнтральныя губерні імперыі, замяняліся поўнасцю "праверанымі", лаяльнымі да ўлады. Зачыняліся касцёлы, іх пераўтваралі ў праваслаўныя цэрквы... Над нашым краем навісла злавесная цемра.

Дык што, няўжо дарэмнай была ахвярнасць герояў 1863 года, як імкнуцца сцвярджаць нават сёння некаторыя сучасныя "спяцы"-гісторыкі, намагаючыся прынізіць веліч і прыклад тых, хто пайшоў за Каліноўскім? Не, такое было не пад сілу нават савецкай гістарыяграфіі з яе масавымі скажэннямі мінулага Беларусі. Немагчыма прынізіць увесь маштаб і сэнс здзейсненага тым, хто фактычна запачаткаваў нашу Нацыянальную ідэю, хто бачыў яе у дэмакратычнай, вольнай ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту сваёй Айчыне. Таго, хто з-пад шыбеніцы пісаў не пакаянныя лісты імператару з мальбой аб літасці, а — разам з апошнімі развітальнымі радкамі да сваёй каханай — гарачы зварот да землякоў, дзеля якіх ён у свае 26 гадоў свядома ішоў на смерць: **"Бывай здаровы, Беларускі Народзе, жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе!"** Хіба можна заплямiць таго, хто зрабіў паролем сваіх паплечнікаў пытанне-адказ: "Каго любіш?" — "Люблю Беларусь!" — "То ўзаемна"?..

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**



**Шэсце беларускай моладзі ў Вільнюсе ў Дзень памяці Каліноўскага — 22 сакавіка: ад Лукішскага пляца, дзе ён быў пакараны смерцю, да магілы на Замкавай гары.**

**ДАРЭЧЫ...**

**Як паведаміла прэс-служба польскай амбасады, у Польшчы 150-годдзе Паўстання 1863—1864 гадоў, вядомага на Беларусі як паўстанне Кастуся Каліноўскага, будзе адзначацца вельмі шырока. Ганаровы патранат над мерапрыемствамі, звязанымі са святкаваннем гэтай важнай гістарычнай падзеі, прыняў прэзідэнт Рэспублікі Польшча Бранiслаў Камароўскі. У розная тыпу мерапрыемствах, прысвечаных гэтай падзеі, якія будуць адбывацца на працягу ўсяго года, акрамя прэзідэнта прымуць удзел прадстаўнікі вышэйшых дзяржаўных органаў улады — старшыні Сейма і Сената Польшчы, прадстаўнікі Савета аховы памяці барацьбы і пакутніцтва, Міністэрства нацыянальнай абароны і шматлікіх таварыстваў і арганізацый. Акрамя канцэртаў, навуковых канферэнцый, вернісажаў і выстаў, прысвечаных паўстанню, удзельнікі мерапрыемстваў наведаюць магілы паўстанцаў і месцы памяці. 22 студзеня на месцы пахавання паўстанцаў на ваенных могілках Павонзкі ў Варшаве адбудзецца пераклічка загінуўшых, а таксама ўскладанне кветак і запальванне лампад. У мерапрыемстве прыме ўдзел прэзідэнт Польшчы і прадстаўнікі краін, на тэрыторыі якіх адбываліся баі: Літвы, Латвіі, Беларусі і Украіны.**

**Святочныя мерапрыемствы запланаваны таксама на тэрыторыі Беларусі. З гэтай нагоды Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь спадар Лешак Шарэпка сёння, 22 студзеня, паедзе ў Свіслач, дзе ўскладзе вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму. Прыняць удзел у мерапрыемстве запрошаны таксама прадстаўнікі пасольстваў Літвы, Латвіі і Украіны. Акрамя таго, у гэтыя дні прадстаўнікі польскіх консульскіх аддзелаў наведваюць магілы і памятныя месцы гераічнага памкнення паўстанцаў па ўсёй Беларусі, прыводзяць іх у парадак, запальваюць лампады.**

**Аб запланаваных святочных мерапрыемствах Пасольства Польшчы ў Мінску праінфармавала беларускія ўлады і запрасіла іх прыняць удзел у святкаванні 150-годдзя Паўстання 1863—1864 гадоў, таму што агульная гісторыя павінна аб'ядноўваць, а не раздзяляць суседнія народы. Але пакуль беларускія ўлады робяць выгляд, што не было такой падзеі ў нашай гісторыі.**

**КОМПЕТЕНТНЫЙ СОБЕСЕДНИК**

# Несправедливый приговор

Единственный случай?

Что вы, подобных вердиктов множество.

Ущемление интересов адвокатуры, формализация работы органов прокуратуры, отсутствие независимости белорусских судов — основные факторы, способствующие вынесению несправедливых приговоров. К такому выводу пришли эксперты ИПУ "Платформа", анализируя обвинительные приговоры в рамках проекта "Несправедливый приговор". Организация решила вплотную заняться помощью заключенным. Не только политическим — всем.

**Павел САПЕЛКО, бывший адвокат, участник проекта:**

— Как появляется несправедливый приговор? Ошибка или злоупотребление правосудия — это результат отсутствия принципиальности судьи, перегруженности судьи, непрофессионализма судьи, несвободы судьи. Для того чтобы вынести правильный приговор, дело нужно изучить — внимательно и объективно. Перед судьей стоит очень сложная задача — по свидетельствам, зачастую противоречивым, по другим доказательствам воссоздать картину преступления или иного деяния. Это на самом деле непросто. Но закон помогает судье — он позволяет толковать любые противоречия и недостатки доказательств в пользу обвиняемого. Дальше дело за малым — принять объективное решение, не позволяя вмешиваться в этот процесс никаким цеховым, профессиональным и прочим псевдоуважительным интересам. Для этого судья должен быть свободен и независим. А он такой, как есть. Все это знают. А кто не знает — поймет на выходе с конвейера... Это знает и оперативник, выбивающий показания кулаками за неимением других способностей, и следователь, документирующий выбитые показания, устраняя по ходу недочеты. И прокурор, направляющий дело в суд и поддерживающий там обвинение. Самое страшное, что это знает и человек, попавший в жернова правосудия, и его нетрудно склонить к самооговору...

Как быть? В идеале — воспользоваться мировым опытом. Проблемы-то у всех похожие. И задачи у французских и американских судей в идеале совпадают с задачами белорусских. Поэтому достаточно законодательно и на практике закрепить принципы судебного разбирательства, исключающие или сводящие к минимуму судебную ошибку. Начать с реальных гарантий независимости судей, следователей, адвокатов. Потом ввести суд присяжных. Ввести институт апелляционного и кассационного пересмотра приговора. Результат обязательно будет.

ИПУ "Платформа" будет и в дальнейшем проводить мониторинг приговоров. Все, кто считает свой приговор незаконным и необоснованным, могут обращаться в ИПУ "Платформа", где ему будет дана квалифицированная оценка.

**Андрей Бондаренко, директор ЧКПУ "Платформа-инновейшн" (на данный момент ИПУ "Платформа" находится в стадии ликвидации по инициативе власти, поэтому зарегистрировано новое предприятие):**

— Делая анализ поступивших к нам приговоров, мы смогли выявить несколько очевидных закономерностей. В первую очередь практически во всех случаях заключенные указывают на применение к ним пыток, жестокого бесчеловечного обращения на стадии предварительного расследования. Всех этих людей заставляли сознаваться в преступлениях, признавать вину, не особенно беспокоясь о допустимости таких доказательств. Как правило, к таким людям в первые дни даже "скорую помощь" вызывают, показания берут в отсутствие адвоката, содержат не в ИВС, а в РУВД. Именно первые показания в дальнейшем ложатся в основу приговора. Если подозреваемый "сознался", об остальных доказательствах следствие уже не беспокоится. Даже если в дальнейшем доказательства будут противоречить друг другу, суд непременно сошлется на "признательные показания", а прокуратура отчитается, что "проверка проведена, факты не подтвердились".

Такое поведение в первую очередь связано с тем, что суды не рассматривают заявления подсудимых о том, что признания даны под давлением, и основывают приговоры на "признательных показаниях", не рассматривая, что недопустимые доказательства не имеют юридической силы и не могут быть положены в основу обвинения.

Еще один "бич правосудия" — ущемление интересов адвокатуры. В ситуации, когда лишить адвоката лицензии новый Закон об адвокатуре позволяет практически по любым основаниям, рассчитывать на независимость адвоката не приходится. Если у суда, следствия или прокуратуры возникает заинтересованность в конечном исходе дела, адвокат бессилен, он просто не в состоянии защитить своего клиента. Самые вопиющие случаи опубликованы у нас на сайте (**platformarb.com**). Есть примеры, как в деле Павла Плаксы, к которому до "признания" в первые два дня трижды вызывалась "скорая помощь", зафиксированы многочисленные побои, но суд даже не принял это во внимание. Есть очевидные доказательства невиновности людей, но суды руководствуются некой иной логикой, вынося достаточно жесткие и необоснованные приговоры. Как показатель — дело Василия Сорочика, которого 6 часов избивали в Ленинском РУВД г.Минска, заставляя признаться в преступлениях.

Отдельной строкой стоят приговоры по экономическим делам. Здесь прослеживаются попытки правоохранительных структур "соответствовать линии партии". На скамью подсудимых попадают люди, в отношении которых прослеживается явная фальсификация уголовных дел и слабая доказательная база, что связано со слабой образованностью органов следствия в подобных делах. Таким образом, эти два фактора толкают сотрудников следствия на "эксперименты" с инициированием "взятки" или профилактическую "работу" с угрозами и запугиванием фигурантов дел. И здесь суды особо не стараются вникать в очевидные противоречия и несоответствия. После этого в приговорах появляются фразы "в неустановленное время, в неустановленном месте, получена неустановленная сумма от неустановленного лица".

Еще одна статья Уголовного кодекса, получившая название "народной", — 328-я: "хранение, употребление, распространение наркотических средств". "Народность" статья получила "благодаря" активной деятельности следователей, которые правдами и неправдами подводили под нее любого, кто попадал в поле зрения ОБНОНА (отдела по борьбе с незаконным оборотом наркотиков). Желание максимально отчитаться за раскрываемость приводит к тому, что цифры "раскрываемости" неуклонно растут из года в год. Это свидетельствует о том, что правоохранительные органы не нацелены на борьбу с наркокурьерами и истинными распространителями наркотических средств, а используют для увеличения статистики обычных наркоманов и пробелы в законодательстве, помогающие "повышению раскрываемости". В результате колонии переполнены наркоманами, а "раскрываемость" продолжает расти. И никто не обращает на этот факт внимания. Видно, так удобней.

С момента начала участия Беларуси в совместных проектах Европейской комиссии, Детского фонда ООН (ЮНИСЕФ) и программы развития ООН "Предупреждение, борьба и минимизация социальных последствий в области торговли людьми" стали прослеживаться новые методики и в работе следователей. Под категорию "работорговцев" стали попадать все прорабы, которые способствуют трудоустройству строителей в России. Анекдотичность ситуации усиливается на фоне заявлений представителей МИД и МВД о повышении раскрываемости в этих областях. В этой связи государство становится похожим на своих оппонентов. Вы нам дайте денег, а статистику мы поправим и раскроем столько, сколько скажете.

**КСТАТИ**

## Андрей Бондаренко получит 11 тысяч долларов за отнятые два года жизни

*Андрей Бондаренко, который был незаконно осужден и провел в местах лишения свободы почти два года, получит 100 миллионов белорусских рублей (11.534 доллара по курсу Нацбанка РБ) в качестве компенсации за моральный ущерб.*

Кассационная жалоба была подана на решение суда Октябрьского суда г.Минска от 25 октября 2012 года о взыскании с казны Республики Беларусь в пользу Бондаренко Андрея Валерьевича компенсации морального вреда в размере 100 миллионов рублей, причиненного незаконным задержанием, содержанием под стражей, незаконным обвинением.

Андрей Бондаренко оценил размер морального вреда в 400 миллионов рублей, обосновав свои требования тем, что он дважды (!) был незаконно осужден и провел 1 год и 10 месяцев в местах лишения свободы, не имея возможности общаться с родными и близкими. Незаконные действия государственных органов лишили его важнейших неимущественных прав, таких как право на свободу, честь, достоинство, личностную неприкосновенность, деловую репутацию, здоровье. Его дочь с 8-месячного возраста почти 2 года не видела отца.

"Проблема не только в том, как и сколько платит за свои ошибки Республика Беларусь. Это еще ладно, — говорит Андрей Бондаренко. — Но вот то, что судьи, вынесшие незаконные приговоры, не только не наказаны, а пошли на повышение — это как? В частности, судья Татьяна Ревинская сейчас работает в Минском городском суде и продолжает применять принципы "разумности и справедливости" на более высоком уровне.

Кроме того, меня особенно беспокоит вопрос того, КАК и ЗА ЧТО осуждают бизнесменов в нашей стране и почему ни один судья не понес наказание за несправедливый приговор, которым он сломал человеку жизнь".

На вопрос, что он чувствует и рад ли такому исходу дела, Андрей ответил:

"Не рад оттого, что те судьи, которые выносили несправедливый приговор, до сих пор не понесли наказания. Кроме того, если бы эта компенсация хотя бы была выплачена сразу, без проволочек и государство принесло свои извинения — еще можно было бы думать, что государство о тебе заботится и беспокоится о тех ошибках, которое оно допустило. А когда компенсацию приходится выбивать в течение двух лет, когда суды отменяют принятое первоначально решение о выплате, направляют на новое рассмотрение и т.д. и в конечном итоге выплачивают эти 100 миллионов только в смысле: "Вот тебе, и отстань от меня!"...

По сути дела, мы их просто дожали. Использовали все нормы законодательства, от которых судам уже невозможно было отбиться. Судам пришлось согласиться платить хоть что-то, поскольку таковы требования законодательства. Они сдались. Так что, конечно, чувствую себя победителем".

**ЧУЛІ?**

## Лепшае месца працы

*Алкагольная галіна ў Беларусі, калі верыць афіцыйнай статыстыцы, перажывае нядрэнныя часы. Як паведамляе БелаПАН са спасылкай на Міністэрства па падатках і зборах, у 2012 годзе найбуйнейшым падаткаплацельшчыкам у Брэсцкай вобласці стаў лікёра-гарэлачны завод "Белалка".*

А ў Віцебску нядаўна ўпершыню выбіралі лепшага працадаўцу горада. У конкурсе ўдзельнічала больш за 30 прадпрыемстваў, у ліку пераможцаў — гендырэктар рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Віцебскі лікёра-гарэлачны завод".

**КРЫМІНАЛ**

## У Светлагорску і Мінску знойдзены нарка-лабараторыі

*Па словах апэратыўнікаў, сферы ўплыву іх уладальнікі строга падзялілі: адзін забяспечваў амфетамінам Светлагорск і бліжэйшыя рэгіёны, другі — начныя клубы сталіцы.*

Канфіскавана лабараторнае хімічнае абсталяванне, рэагенты і прэкурсоры для сінтэзу і вырабу амфетаміну агульнай вагой амаль 100 кг, з якога можна было зрабіць каля 30 кг гатовага наркотыку. Гэта звыш 120 тысяч доз. Па коштах чорнага рынку прыбытак наркадзялкоў склаў бы некалькі дзясяткаў тысяч долараў.

ТАК ДУМАЮ!

# Почему мы должны платить дважды?

Здравствуйте, уважаемая редакция “Народной Воли”!

Я и многие наши пинчане с удовольствием читаем вашу газету. Вы самое справедливое издание в Республике Беларусь — печатаете правду и не боитесь различных репрессий. В этом заслуга главного редактора И.П.Середича, низкий поклон ему за это.

Хочу поделиться следующим. Меня возмущает заявление министра здравоохранения Василия Жарко о введении платы за посещение врачей в поликлиниках. Мы достаточно платим подоходного налога, из которого часть уходит в Министерство здравоохранения, что, безусловно, позволяет 5—6 раз в год посетить бесплатно любого врача. Другое дело, что тем, кому нужна быстрая и более квалифицированная консультация, могут воспользоваться платными услугами (которые имеются в тех же поликлиниках), а также услугами частных медицинских учреждений, каких в наше время пруд пруди. К тому же у нас отсутствует медицинское страхование, что дает возможность для всяческих необоснованных манипуляций со стороны медицинских учреждений и в целом здравоохранения. В наше время стало нормой, что для лечения ребенка за границей по жизненно необходимым показателям деньги собирает вся страна, а здравоохранение во главе с В.Жарко умывает руки, хотя заработная плата у министра и его аппарата высочайшая. Почему — не понятно! Ведь они ничего не производят, но совершенно спокойно жируют, пользуясь льготами и своим положением, и норовят потуже затянуть гайки, дабы увеличить поток денег.

Министерство ЖКХ в своих звездных планах мечтает увеличить стоимость жилищно-коммунальных услуг до 100 процентов, мотивируя тем, что оплата этих самых услуг дотируется государством и не окупает жизненно важных потребностей отрасли. Да, государство дотирует жировки из бюджета, не из личного кармана... Но откуда деньги в бюджете? Вопрос справедливый. Не так ли? Бюджет формируют наши с вами налоги! Так почему мы должны дважды, а то и трижды оплачивать услуги ЖКХ? При этом, прошу заметить, услуги низкого качества. И обжаловать их трудно по той простой причине, что рука руку моет ... Почему ЖКХ, к примеру, не разрешает ставить импортные счетчики горячей воды? Все просто! Эти приборы ведут учет горячей воды только от 48°С, что нашему ЖКХ невыгодно по известным причинам.

Министерство транспорта — тоже бедная, неокупаемая, вечно ноющая отрасль, постоянно повышающая цены на проезд. Почему бы не переложить оплату проезда (одного месячного проездного) на плечи госпредприятий и частных фирм работодателей? Отпала бы необходимость в содержании большого штата кондукторов, ревизоров, в печати проездных документов и в связанных с этим затратах. А пенсионеры достаточно в своей жизни поработали на государство, и оно вполне в состоянии предоставить бесплатный проезд. Но вместо этого строят ледовые дворцы, стадионы, доступ в которые далеко не каждому по карману. Образно говоря — государство пускает пыль в глаза, чтобы было ясно: мы живем в благополучном и достойном обществе. Госаппарат преследует свои корыстные цели. Он неимоверно раздут. Депутатов и чиновников содержит тот же рабочий человек. Получают они высокие заработные платы на пустом месте, создавая под себя законы, пользуясь необоснованными льготами, и всеми правдами и неправдами держатся за свои теплые кресла. Вот где реальная экономия госбюджета — сократить госаппарат и урезать зарплаты и льготы оставшимся чиновникам.

**С уважением — ваш постоянный читатель**

**Александра Николаевна БРУНДУКОВА.**

*г.Пинск.*

ФОТОФАКТ




Вот такую своеобразную парковку организовала хозяйка данного автомобиля. Прямо возле своего рабочего места.

И пока такие жители Минска могут ставить машины на зеленой зоне, тротуаре и т.д., их не заставишь пользоваться услугами паркинга, стоянки, за которые нужно платить да еще и добираться до них. Пора уже включать административный ресурс и начать настоящую борьбу с парковками в неположенных местах. Так, как это делается в европейских странах. А мы ведь европейская страна, и штрафы должны быть ощутимые, и городской бюджет, естественно, пополнится.

**С уважением —**

**Леонид ХОДАН.**

*Минск.*

МНЕНИЕ

## *Обязан отработать?*

В нашей стране, как известно, родители, чьи дети воспитываются в детских домах, обязаны отрабатывать, чтобы гасить долг перед государством за содержание своих детей. Вроде бы мера правильная: наплодил деток, которых общество содержит вместо тебя, — иди отрабатывай должок.

Мой брат, который с семьей уехал на Запад, рассказывал, как был потрясен отношением там к наркоманам и алкоголикам: пенсия типа пособия по инвалидности, бесплатное медобслуживание и профессиональное лечение от наркозависимости, если желаешь, конечно. Там, если человек опустился на социальное дно, общество винит себя и как-то пытается искупить свою вину. А в нашей стране, где с алкоголизмом борются только на словах, введя норму отработки для родителей-пьяниц, таким образом находят рабочую силу для тех мест, где зарплаты мизерные и куда никто не хочет идти работать.

**Галина ЮРКЕВИЧ.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Прызы з экрана — як соль на раны

**Паводле апытанняў, самай папулярнай тэлеперадачай сярод беларусаў з’яўляецца капітал-шоу “Поле чудес” Леаніда Якубовіча...**

*Лагодны вечар лёг на хаты,*
*Святло ад ветаха-слязы...*
*— Хутчэй хадзі сюды! Вусаты*
*Зноў раздавацьме ўсім прызы! —*
*У крэсла ўсеўшыся, Мікіта*
*Заве “палову” да сябе.*
*Яна, забыўшы пра карыта,*
*Да тэлевізара “грабе”.*
*Пабоку ім любая праца,*
*Калі чаканы час прыйшоў*
*Услодыч зноў палюбавацца*
*На “Поле цудаў” — тэлешоу.*
*Там рэй вядзе сівы вядучы,*
*Вусы ў яго — на ўвесь экран.*
*Прызоў, прысмакаў, кветак кучы,*
*І цёткі круцяць барабан.*
*Для ўсіх — малога і старога —*
*Там казачны працэс ідзе:*
*Як кажуць, “сыпле з рога многа”*
*Дарункі дзядзька-чарадзей.*
*— Відэакамера! — з экрана. —*
*У студыю ўнясіце прыз!*
*Мікіту — нібы соль на раны,*
*Ён відавочна тварам скіс.*
*— Во як расшчодрыўся вусаты:*
*Такая рэч — і задарма.*
*А ў нас і фотаапарата,*
*Хоць заняпалага, няма...*
*Кабета абвяшчае звонка:*
*— Я выбіраю пыласос!*
*Цяпер жа ад экрана жонка*
*З выяўным сумам верне нос.*
*— Во падарунак даў вядучы!*
*Наш пыласос такі стары,*
*Што хоць замест яго анучы*
*Рукой бяры, падлогу тры.*
*Кінатэатрам хатнім файным*
*Разжыўся нейкі ветэран.*
*— Вось гэткі хтосьці дасць няхай нам —*
*Шырокі, як акно, экран, —*
*Сказаў Мікіта. — Глянуць люба,*
*Калі сапраўднае кіно.*
*А сэнс які ісці да клуба?*
*Не круцяць там кіно даўно...*
*Не абдзяліў вусач нікога,*
*Хоць рознымі былі прызы:*
*Ад тэлевізара “крутога”*
*Да таннай хатняй драбязы.*
*Ніхто не зелянеў ад злосці,*
*Не дужа свой маркоціў клёк,*
*Калі вядучы для кагосьці*
*Са скрыні даставаў гурок.*
*І вось, нарэшце, так чакана*
*(Не верыцца, што гэта быль)*
*Вядучы той замест банана*
*Дастаў ключы:*
*— Аўтамабіль!*
*І жонка мовіла сярдзіта:*
*— Ты мары з галавы гані,*
*Бо будзем ездзіць мы, Мікіта,*
*Хіба што толькі на кані...*
*Патух экран. Яны да быту*
*Вярнуліся ад мрояў-мар:*
*“Палова” зноў пайшла к карыту,*
*Раскрыў Мікіта партсігар...*
*І зноў чакацьмуць цэлы тыдзень*
*І ў рэчаіснасці, і ў сне,*
*Калі вусаты дзядзька прыйдзе,*
*З экрана ў хату зазірне.*
*І зноў Мікіта “палавіну”*
*Пакліча з сенцаў у пакой,*
*І будуць цэлую гадзіну*
*Зайздросціць радасці чужой.*

* * *

*Такая ў беларусаў доля...*
*Заўжды гаротная яна...*
*У нас замест “цудаў поля”*
*Паўсюль нішчымніца адна.*
*Глядзіць удалеч люд збалела,*
*Нібы путана на шашы:*
*Не многа радасці для цела,*
*Няма патолі й для душы.*
*А хто ж у гэтым вінаваты?*
*Чаму мы ўпалі ў самы ніз?*
*Бо ўсё чакаем: хтосьці вусаты*
*Нарэшце нам дастане прыз...*

РЕЗОНАНС

# «Карманная» страна

Давно слежу с большим интересом за выступлениями в “Народной Воле” Александра Ольхового, ныне военного пенсионера. Его острые, проблемные и правдивые статьи вызывают восхищение. Вот и очередная статья “Красному дому”, но не народу”, как говорится, не в бровь, а в глаз. На сто процентов согласен с автором относительно работы депутатского корпуса в так называемой “палатке”.

В народе “слуг народа” по праву называют карманным парламентом, потому что служат, можно сказать, одному человеку, то есть президенту, а не всему народу.

И Лукашенко, как правильно подмечает А.Ольховой, выдает желаемое за действительное, когда публично защищает депутатов, характеризуя их как добропорядочных, интеллигентных депутатов, которые не кричат гвалтом в Овальном зале, а практически молча штампуют нужные законы, исходящие от правителя и его окружения, так называемых “кивал-подхалимов”, получая за это многомиллионные зарплаты, а после окончания срока — небедные пенсии.

Разделяю обеспокоенность А.Ольхового относительно того, что в нынешнем парламенте нет настоящих личностей, какие были, скажем, в Верховном Совете. Это, конечно, депутатская фракция во главе с Зеноном Пазьняком, отстаивающая суверенитет и независимость, а также Виктор Гончар и Геннадий Карпенко — люди гениальные, честные, преданные своему народу. Автор прав: эти люди были бы на вершине властного олимпа, а на мой взгляд — достойными кандидатами в президенты.

Впрочем, придет время, в чем я не сомневаюсь, будут разгаданы все тайны смерти этих лучших представителей белорусского государства.

Солидарен с А.Ольховым, что одна из причин того, что в стране не все ладится — отсутствие разделения властей на законодательную, исполнительную и судебную, о чем давным-давно, как образно говорит автор, чирикают все воробьи.

**Анатолий ШАРАЕВ, пенсионер.**

*г.Фаниполь.*

ПРОШУ СЛОВА!

## *Государство не должно снимать с себя ответственность*

В последнее время по телевидению, радио, в государственных газетах очень много говорится о том, как наше правительство заботится о ветеранах войны и труда.

Но я хочу сказать, что во многих случаях пребывание стариков в пансионатах, интернатах — это не от хорошей жизни.

Во-первых и самое главное — жилье. Немало тех, кто на старости лет не хочет стеснять своих детей и внуков. Обеспечь государство всех ветеранов добротным жильем, и тогда почти все будут доживать свой век с родными.

Что касается помощи детей своим отцам и матерям, то, конечно, она должна быть. Но каждая молодая семья помогает пожилым родителям по материальной возможности (ведь сами живут не в роскоши).

Государство забирает у этих стариков, проживающих в пансионатах, 75 процентов пенсий, и теперь власть добивается, чтобы их дети полностью взяли на себя проживание родителей в казенных домах, чтобы таким образом снять с себя ответственность за ветеранов войны и труда. Считаю, что такая государственная линия несправедливая. Ветераны войны многое сделали для страны и имеют законное право на заботу со стороны государства.

**Петр Михайлович АНИСТРАТЕНКО, ветеран.**

*Минск.*

ШЧЫРА

# На што вы марнуеце талент?

## *Адкрыты ліст Альгерду Бахарэвічу*

Альгерд, я, Марыя Лукашук, ужо была абурана Вамі за слова “Беларусь”, якое Вы напісалі ў рэцэнзіі на кнігу П.Севярынца “Люблю Беларусь” з малой літары! А зараз не маю слоў, каб выказаць сваю непавагу да Вас, маладога беларуса, які жыве не дома, а ў квітнеючай Нямеччыне і спакойна піша. Прачытала Ваш “Гамбургскі рахунак Бахарэвіча”. З кім гэта з беларускіх пісьменнікаў Вы рахуецеся?

Узяцца за пяро прымусіў мяне артыкул у Вашай кніжцы пад назвай “Каян Лупака” — гэта аналіз твора Янкі Купалы 1930-х гадоў “Над ракой Арэсай”. Другі артыкул ужо з назвай “Янка Купала”.

Прачытала першы раз, затым “Над ракой Арэсай”, потым два разы Ваш опус, стала дрэнна, і вельмі. Вось чаму і пішу Вам. Паэт напісаў праўду: асушэнне балот, потым і лямпачкі засвяціліся, знікла трохі забалаць. Там працавала моладзь, паэт гэта бачыў, а моладзь умее весяліцца ў любых умовах, жэняцца нават у турме, як наш Дашкевіч.

А Вы абрынуліся за паэму на славутага сына Беларусі, які яшчэ на пачатку свайго літаратурнага шляху заявіў, што беларусам захацелася “людзьмі звацца”... І якую высокую ацэнку яго твору даў М.Горкі!

Янка Купала — гонар Беларусі, а Вы?!

“Пісьмо тав. Сталіну ад беларускага народа” падпісалі Я.Колас, Я.Купала, Н.Арсеннева і іншыя, а я, 12-гадовая школьніца з-пад Буга, з высокай трыбуны для жыхароў Воўчынскага сельсавета чытала ўсе 24 куплеты на памяць. Мой бацька “кулак”, не ўспрыняў у 1939 годзе савецкую ўладу, я ў педвучылішчы ў групе адна была не камсамолкай, хоць была выдатніцай, затым 10 год беспартыйная загадвала кафедрай беларускага мовазнаўства, двойчы прапаноўвалі ўступіць у партыю, але душа не ляжала. З 28 загадчыкаў толькі мы трое былі беспартыйныя.

Чаму Вам, спадар Бахарэвіч, не жыць добра, стаць у шэраг тых, каму лёс Беларусі важны, або хоць напісаць навэлу пра Каваленку, яго ёлку з бел-чырвона-белым сцягам, пра Статкевіча, Дашкевіча, пра ўміранне спеўнай нашай мовы і гэтак далей. А Вы патрацілі свой талент на беспадстаўнае ачарніцельства вялікага Янкі Купалы. Мяне абурыў не столькі змест-інтэрпрэтацыя паэмы, а К.. Л..а?

Задумайцеся, вяртайцеся дадому, апісвайце нашу рэчаіснасць так, як Вам захочацца, не бойцеся, як казаў Ян Павел II.

**Марыя ЛУКАШУК.**

*Брэст.*

ПАЗІЦЫЯ

## *Ад пакарання яны нідзе не схаваюцца*

Шаноўная рэдакцыя “Народнай Волі”!

Ад сябе асабіста і ад усіх сумленных людзей Беларусі выказваю ўдзячнасць за сістэматычнае з’яўленне ў газеце напамінання пад рубрыкай “Іх лёс хвалюе Беларусь”! Я вельмі добра ведаў гэтых людзей. Яны — узор сумлення! Напрыклад, Юрый Захаранка — генерал! Я ў той час узначальваў Таварыства беларускай мовы Мінска і заўжды запрашаў яго на пасяджэнні. Ён — патрыёт нашай Радзімы, годны сын нашага народа. Яго выступленні былі заўжды змястоўнымі, карыснымі.

Звернем увагу, што ўсе яны знішчаны амаль у адзін і той жа час. Значыць, тыя, у каго рукі ў крыві, з адной хеўры лютых ворагаў не толькі ўсяго беларускага народа, а і гэтых беларусаў асабіста. Помніцца з паведамленняў прэсы, што наша ўлада не дапусціла замежных спецыялістаў у камісію па росшуку забойцаў.

Няхай яны, лютыя злачынцы, ведаюць, што ёсць у свеце Вышэйшы ўладар і суддзя — Бог! Ад яго яны нідзе не схаваюцца. Таму сістэматычны напамін: “Іх лёс хвалюе Беларусь” будзе ўжо пэўнай карай. І забойцы, пры любой іх пасадзе, будуць знойдзены і пакараны.

**Аляксей САЛАМОНАЎ, доктар тэхнічных навук, прафесар.**

*Мінск.*

ХАЧУ СКАЗАЦЬ...

# Талер — гэта незалежнасць Беларусі і яе дабрабыт

Паважаная “Народная Воля”, ахвотна адклікаюся на “востры погляд” кандыдата навук спадара Врубеля “Кто виноват в денежном провале страны?”.

Я добра памятаю, як у свой час лідар нацыянальнага беларускага адраджэння Зянон Пазьняк, будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання, заклікаў прыняць закон аб увядзенні беларускай нацыянальнай валюты — талера. Але пракамуністычна-артадаксальныя дэпутаты нават і слухаць не хацелі. Таму так і застаўся расійска-камуністычны сурагат у кішэнях беларускага народа. Але, як вядома, чужароднае не прыжываецца, гэта тое самае, што чалавеку ўліць кроў супрацьлеглай групы — вынік будзе смяротны. Менавіта так склалася і з гэтым рублём, аб якім так яскрава распавядаў спадар Врубель.

Асабіста я, як чалавек з свядомай грамадзянскай пазіцыяй, на працягу вось ужо 20 гадоў задаю пытанні вядомым палітыкам, у тым ліку і экс-старшыні Нацыянальнага банка прафесару спадару Багданкевічу, пра неабходнасць увядзення талера, але ні ад аднаго так і не атрымаў зразумелага адказу. Магчыма, што яны лічаць маё пытанне нейкім глупствам, маўляў, ёсць сурагатны “рубель” — ну і добра, да яго ж прывыклі. Вядома, чалавек здольны да чаго заўгодна прывыкнуць, але ці на карысць тая прывычка будзе? Хутчэй не. Нават ніхто з былых кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах 2010 года ў сваіх праграмах не згадаў пра талер.

І вось знайшоўся нарэшце хоць адзін навуковец, пасля Зянона Пазьняка, які, як бачым, рубам ставіць пытанне аб нацыянальнай беларускай валюце.

Шчыры дзякуй Вам, паважаны Юрый Андрэевіч Врубель, за Вашу навукова абгрунтаваную пазіцыю. Хочацца спадзявацца, што пасля вашага крытычнага артыкула штосьці зварухнецца, і навуковая эліта і адпаведныя палітыкі нарэшце прачнуцца і паставяць адным з галоўных пытанняў незалежнасці і дабрабыту беларускага народа — гэта ўвядзенне беларускай нацыянальнай валюты талера.

**Мікола КАНАХОВІЧ, ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

ГОЛОС ИЗ НАРОДА

## *...И люди уезжают*

Когда-то Кричев был промышленным городом и городом строителей. Но в последние 10—12 лет произошли большие изменения не в лучшую сторону. Был мясокомбинат — теперь его нет, был маслозавод — и нет маслозавода. Как нет десятка строительных организаций и ряда других.

Кричев превращается в город безработных. Чтобы как-то выжить, многие уехали работать в Москву и Питер...

**Валерий БЫСОВ, житель г.Кричева.**

СМЕХАТУРА

## *Поўная дыскрэдытацыя...*

Што трэба зрабіць, каб канчаткова дыскрэдытаваць беларускі парламент? На гэтае пытанне на мінулым тыдні адказалі члены прэзідыума Савета Рэспублікі. Яны ўзнагародзілі старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзію Ярмошыну ганаровай граматай *“за заслугі ў развіцці заканадаўства, ва ўмацаванні дэмакратыі і дзейнасць па забеспячэнні правоў і свабод грамадзян”*.

Нагадаем, Лідзія Ярмошына працуе на пасадзе старшыні ЦВК са снежня 1996 года. І ніводныя выбары, праведзеныя пад яе кіраўніцтвам, не былі прызнаны легітмнымі ў цывілізаваным свеце. Таму ўзнагарода за *“ўмацаванне дэмакратыі і дзейнасць па забеспячэнні правоў і свабод грамадзян”* — гэта не проста смехатура, а поўная дыскрэдытацыя самога Савета Рэспублікі.

**Віктар КУПРЫЯНАЎ.**

АД СЭРЦА

## *Я таксама не магла стрымаць слёзы*

У адным з нумароў “Народнай Волі” прачытала водгук Р.У.Рымар на вершы Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна. Яна піша, што чытала іх з пачуццём гордасці за знакамітага паэта і слязамі на вачах. Паверце, я таксама не магла стрымаць слёзы. Вельмі добра разумею і падзяляю яго горыч і боль за шматпакутны лёс Радзімы. Дазвольце мне, калі можна, пажадаць паважанаму Генадзю Мікалаевічу многіх гадоў жыцця, каб ягоны талент яшчэ доўга свяціў нам, нават у самыя змрочныя часіны! І каб ён дажыў да такіх змен на Беларусі, калі творы беларускіх пісьменнікаў будуць выклікаць у людзей пачуццё гордасці і радасці за сваю краіну, а слёзы — толькі ад вясёлага смеху.

Дарэчы, пра смех. Хачу падзякаваць газеце за “Калонку Алеся Няўвеся”, якая дастаўляе вялікае задавальненне сваім дасціпным, іскрыстым (іскрамётным) гумарам і таксама выклікае слёзы, але слёзы ад смеху, а часам і ад гамерычнага рогату. Як дасціпна аўтар кляйміць усё дурное і ганебнае, што ў нас адбываецца!

Калі ласка, павіншуйце Алеся Няўвеся з творчым поспехам (а можа, усіх Алесяў Няўвесяў, бо маю падазрэнне, што ён (Алесь) не адзіны). У нас шмат таленавітых пісьменнікаў.

Гумар дапамагае чалавеку выжыць у самыя цяжкія часы. Пакуль народ здольны ратавацца смехам, ён не загіне. Бо смех — гэта зброя, прычым вельмі небяспечная для ворага, яна б’е, як кажуць, у дзясятку. Пачуццё гумару — гэта адзінае пачуццё, якое адрознівае чалавека ад істот жывёльнага свету. А розум беларусаў вельмі багаты на пачуццё гумару! Мы — разумныя і моцныя людзі, а не нейкія істоты, як камусьці хацелася б нас уяўляць. Цяжкі гістарычны лёс краіны зрабіў нас асцярожнымі і маўклівымі з мэтай самазахавання. Але прыйдзе час, калі беларускі народ уздымецца ва ўвесь свой рост і стане роўным сярод усіх народаў. І вялікая роля ў гэтым працэсе належыць газеце “Народная Воля”. За што Вам вялікая ўдзячнасць і самыя добрыя пажаданні!

**Тамара Канстанцінаўна ЛАЗАРУК.**

*Мінск.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Ці дапаможа алімпійскі чэмпіён па стральбе Дар'і Домрачавай?

*Беларуская біятланістка Даша Домрачава прызналася, што звярталася за парадамі да алімпійскага чэмпіёна па кулявой стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі Сяргея Мартынава.*




— Над тым, каб стральба была эрганамічнай, мы шмат працавалі з маім трэнерам Клаусам Зібертам, — распавяла спартсменка пасля спрынтарскай гонкі ў італьянскім Антхольцы. — Змянілі ложа вінтоўкі, і зараз я на самай справе раблю менш рухаў у пошуку найбольш зручнай пазіцыі для стральбы. Акрамя таго, я сустракалася з алімпійскім чэмпіёнам Сяргеем Мартынавым. Ён мне даў шэраг дастаткова карысных парад. Папрацаваць з ім мне, на жаль, не давялося, але тэма застаецца адкрытай. Многія біятланісты, ведаю, супрацоўнічаюць са стралкамі дастаткова плённа. Вось і я вырашыла паспрабаваць. Хоць разумею, што стральба і біятлонная стральба — зусім розныя рэчы. Працаваць са стралком, які хаця б у агульных рысах не ўяўляе сабе спецыфіку біятлона, бессэнсоўна.

*"Я нават не ведаю, ці варта каментаваць словы Дар'і*, — сказаў "Народнай Волі" **Сяргей МАРТЫНАЎ**. — *Сустрэліся з ёй аднойчы, пагутарылі як сябры... Вось і ўсе парады. Калі захоча яшчэ нешта запытацца — калі ласка. Але ў Дашы свае высокааплатныя трэнеры, думаю, яны ёй дадуць больш прафесійныя парады".*

Дарэчы, пасля таго, як Дар'я Домрачава паведаміла пра *"парады ад алімпійскага чэмпіёна"*, яна ўдзельнічала ў гонцы праследавання, дзе на чатырох агнявых рубяжах стрэліла ў "малако" аж шэсць разоў! Вось вам і ўрокі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НА ЗДАРОЎЕ!

*Уладзімір ШУЛЬГАН:*

# «Маржы не хварэюць!»

*У мінулыя выхадныя — на Вадохрышча — ізноў актывізаваліся прыхільнікі зімовага купання. Старшыня клуба загартоўвання і зімовага плавання "Камсамольскае возера"* ***Уладзімір ШУЛЬГАН*** *распавядае, каму можна, а каму не рэкамендуецца лезці ў ледзяную палонку, і дае парады для пачынаючых маржоў.*

— Як мне падаецца, колькасць жадачых займацца зімовым плаваннем з кожным годам расце, хоць натуральна, што статыстыку ніхто не вядзе, — кажа мой суразмоўца. — Але народ у гэтым плане стаў больш адукаваным.

**— А для вас Вадохрышча — гэта што?**

— Для мяне гэты дзень радасны ўдвая, бо я бачу, колькі людзей на праваслаўнае свята акунаецца. Лепшага дня ў годзе, чым Вадохрышча, для мяне няма.

**— Дарэчы, медыкі папярэджвалі, каб усе жадаючыя не лезлі ў халодную ваду...**

— А ўсе і не могуць. Па-першае, у палонцы больш за аднаго чалавека быць не можа. Пабыць у ледзяной вадзе дастаткова 30—50 секунд. А ў гэтым годзе, улічыўшы вопыт мінулых гадоў, і наогул зрабілі на Камсамольскім возеры толькі адну палонку і нават зменшылі яе ў памерах. Прыходзілі ж не прафесійныя маржы, а аматары. А то некаторыя як акунуцца тры разы запар, дык пасля выцягвай яго за вушы.



**— Вы супраць таго, каб некаторыя прыходзілі акунуцца ў палонку з дзецьмі?**

— Катэгарычна супраць! Гэта ж маладыя арганізмы, якія яшчэ не сфарміраваліся ні фізічна, ні псіхалагічна. Акрамя таго, дзеці пачынаюць пішчаць, гарэзнічаць у вадзе і ствараюць нездаровую абстаноўку вакол прыстойнага мерапрыемства. І, паўтаруся, рана дзецям лезці ў ваду, тэмпература якой 2 градусы. Некаторыя бацькі кажуць: "Мой сын загартаваны!" Прабачце, але якая можа быць загартоўка ў 14 гадоў? У нас сярод аматараў клуба сярэдні ўзрост — 39 гадоў. Мінімальны — 27, максімальны — 75. А наогул, перш чым акунуцца ў ледзяную ваду, задайце сабе два пытанні: ці патрэбна вам гэта, і, калі патрэбна, то для чаго? Знайшлі адказы — ідзіце і правярайце свае магчымасці. А то нехта лічыць зімовае купанне на Вадохрышча модай, хтосьці ідзе за кампанію, у кагосьці прачынаецца геройства пасля таго, як вып'е гарэлкі.

**— Піць нельга, калі лезеш у палонку?**

— Можа адбыцца трагедыя. Уяўляеце, што хтосьці выпівае, у яго пачынаюць пашырацца сасуды, а затым ён скача ў ледзяную ваду, і сасуды рэзка звужаюцца. Больш таго! Калі чалавек хоча атрымаць поўнае задавальненне ад зімовага купання, то і пасля вады не павінен ужываць алкаголь.

**— А з якой перыядычнасцю вы купаецеся ў зімовых палонках?**

— Па-першае, каб увайсці ў ледзяную ваду, трэба загартоўвацца круглы год. І са свайго вопыту магу сказаць, што аптымальны варыянт — акунуцца ў ваду 2—3 разы на тыдзень. Калі больш, то можа з'явіцца залежнасць. Будзе цягнуць у палонку.

**— Людзі, якія загартоўваюцца, менш хварэюць?**

— Я, напрыклад, наогул не ведаю, што такое прастуднае захворванне. Маржы не хварэюць!

**— У колькі гадоў можна заняцца загартоўваннем, маржаваннем?**

— У нас ёсць людзі, якім за семдзесят. Так што галоўнае — спачатку падрыхтавацца да гэтага псіхалагічна. Усё астатняе, як кажуць, справа тэхнікі.

**— Якія б вы парады далі пачынаючым?**

— Першае — пачынайце рыхтаваць сябе летам. Аблівайцеся халоднай вадой, няхай арганізм прыстасоўваецца. Другое — не трэба баяцца. Зімой падрыхтуйце прасторную вопратку, якую лёгка зняць і апрануць, купіце халат з капюшонам. Акунайцеся з галавой адзін раз. Пасля купання лепш не выціраццa. Пастойце крыху на марозе ў халаце, адчуйце, як гарыць арганізм. Паўтаруся, калі вы вырашылі заняцца загартаваннем, то ўсё ў вас атрымаецца.

**Алесь СІВЫ.**

ШАХМАТЫ

## Из творчества читателей

### *Н.Бельчиков, Ч.Якубовский*




**Белые:** Крh5, Фg6, Сc3, Кa2, Кb4 (5).

**Черные:** Крd1, п.d2 (2).

**Мат в 2 хода.**

Публикуем двухходовую задачу, авторами которой являются мастер спорта СССР по шахматной композиции Николай Бельчиков и доцент Белорусского национального технического университета Чеслав Якубовский. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## На очереди — рекорд Г.Каспарова

В 1999 году чемпион мира Гарри Каспаров довел свой рейтинг до рекордной отметки — 2851! С тех пор прошло 13 лет, но до самого последнего времени рекорд казался недосягаемым. Однако сейчас положение изменилось. 23-летний норвежский гроссмейстер Магнус Карлсен возглавил рейтинг-лист ФИДЕ с блестящим показателем — 2848! До рекорда Каспарова осталось всего 3 (!) пункта. На второй позиции в рейтинг-листе Левон Аронян (Армения) — 2815, третий — экс-чемпион мира Владимир Крамник (Россия) — 2795. В число 25 сильнейших также входят: 4.Теймур Раджабов (Азербайджан) — 2793, 5.Фабиано Каруана (Италия) — 2786, 6.действующий чемпион мира Вишванатан Ананд (Индия) — 2775, 7.Сергей Карякин (Россия) — 2775, 8.экс-чемпион мира Веселин Топалов (Болгария) — 2769, 9.Александр Грищук (Россия) — 2764, 10.Шахриар Мамедьяров (Азербайджан) — 2764, 11.Василий Иванчук (Украина) — 2763, 12.Гата Камский — 2762, 13.Хикару Накамура — 2755 (оба из США), 14.Борис Гельфанд (Израиль) — 2751, 15.Александр Морозевич — 2748, 16.Петр Свидлер — 2747, 17.Дмитрий Яковенко — 2741 (все из России), 18.Руслан Пономарев (Украина) — 2741, 19.Ванг Хао (Китай) — 2737, 20.Вугар Гашимов (Азербайджан) — 2737, 21.Радослав Войташек (Польша) — 2734, 22.Петер Леко (Венгрия) — 2732, 23.Леньер Домингес (Куба) — 2726, 24.Евгений Томашевский — 2725, 25.Дмитрий Андрейкин — 2723 (оба из России).

В списке 100 сильнейших больше всего представителей России — 22. От Украины входят 10 гроссмейстеров, Китая — 7, Франции — 6, от Армении и Венгрии — по 5. В первую сотню входит сильнейший белорусский шахматист 23-летний чемпион страны Сергей Жигалко — 2682, 68-е место.

## Мемориал Ю.Кулаги

В Минске прошел традиционный турнир памяти тренера Юрия Кулаги. В нем выступил 71 спортсмен. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. Победителем стал гроссмейстер Евгений Подольченко — 8 очков. Такой же итог у гроссмейстера Игоря Люцко, который занял второе место. А третий приз достался международному мастеру Сергею Хамицкому — 7 очков.

IN MEMORIA

## Некалькі слоў у памяць паэта...

*18 студзеня цела гродзенскага паэта і журналіста Юрыя Гуменюка знайшлі ў 250 метрах ад яго дома. Сведкі кажуць, што ён выпаў з дзявятага паверха...*

Юрася я асабіста ведала, мусіць, апошнія гадоў шэсць — даводзілася працаваць разам і перасякацца на літаратурных імпрэзах у Беларусі і за яе межамі. Цікавы паэт і неблагі журналіст, а што тычыцца асабістых звычак, то не нам, звычайным людзям, выносіць прысуды. Ён быў ветлівым чалавекам з добрым пачуццём гумару і цудоўнай манерай рабіць вельмі трапныя і вострыя заўвагі. З ім было весела і цікава.



Усе, хто хоць трохі ведаў Юрыя, пацвердзяць — журналістыка для яго была толькі сродкам зарабіць грошы. Яго сапраўднае прызванне — паэзія. Прычым у яго выпадку паэзія была яшчэ і ладам жыцця. Часам Вацлаў Галімскі (такі псеўданім час ад часу ў журналісцкай працы выкарыстоўваў Юрась) завісаў у багемным жыцці, губляў повязь з рэальнасцю. Аднойчы адзін мінскі творца сказаў мне, што жадаць быць не такім, як усе, і быць не такім, як усе, — справы зусім розныя. Хацеў ён таго ці не, але Юрый быў выбітным, незвычайным чалавекам, ён моцна вылучаўся з таго гродзенскага асяродку, у якім быў вымушаны жыць. Было відавочна, што часам гэтая непадобнасць моцна яму перашкаджала. Між тым ён заўжды заставаўся самім сабою — нават апранаўся з франтаватай прэтэнзіяй, зусім не па мясцовай модзе.

Паэтычная багемнасць, як і журналісцкая трапнасць, — толькі частка шматбаковай асобы Юрыя. Ён быў клапатлівым і пяшчотным сынам, да апошняга жыў з маці ў прыватным доме ў ціхім раёне Гродна.

Што дакладна здарылася з Юрасем на дзявятым паверсе гродзенскага інтэрната, дакладна сказаць не могуць нават следчыя. Кажуць, што спачатку ён з маці выправіўся ў госці, але мужчыну апанаваў дрэнны настрой, і ён сышоў. Супрацоўніцы інтэрната, дзе ўсё і здарылася, кажуць, што Юрый не збіраўся заходзіць да каго-небудзь у госці. Ён проста падняўся на дзявяты паверх, прайшоў да балконаў на кухні і...

Ужо з'яўляюцца версіі аб тым, што ракавы крок быў самагубствам, што Юрась не вытрымаў жыццёвай неўладкаванасці і асабістых праблем. Калі шчыра, то асабістае жыццё калегі мне абмяркоўваць зусім не хочацца. Усе яго таямніцы няхай застаюцца за зачыненымі дзвярыма спальняў. Я чытала яго вершы і не хачу разбірацца, каму яны былі прысвечаны...

Бывае, што смерць бліжняга не ўздымае пыл змрочных эмоцый і думак. Пасля развітання застаюцца ўспаміны і лёгкі сум. Падаецца, што той, назаўжды далёкі, працягнуў свой шлях у невядомым, а ты вымушаны чакаць чагосьці надзвычай важнага ў тлуме паўсядзённых падзей... На жаль, апошнім часам чужая смерць пакідае толькі скруху і цягнучы боль.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РАЗВІТАННЕ

## Ён выгадаваў цэлае пакаленне сапраўдных беларускіх патрыётаў

*Учора ў Мінску развіталіся з Міхасём Чарняўскім — гісторыкам, археолагам, краязнаўцам.*

У апошнія месяцы Міхась Чарняўскі перанёс некалькі аперацый. Як паведаміў яго сын Максім, прычына смерці — бліскавічнае развіццё ракавых пухлін, пра існаванне якіх не падазравалі і якіх не было яшчэ ў канцы восені.

Ён нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна. Гісторыяй, археалогіяй захапіўся яшчэ ў дзяцінстве. Скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук, вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру першабытных плямёнаў каменнага і бронзавага вякоў. У 1971 годзе па выніках даследаванняў абараніў дысертацыю "Неаліт Паўночна-Заходняй Беларусі".

Разам з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазьняком быў удзельнікам клуба вальнадумнай беларускай інтэлігенцыі "Акадэмічны асяродак", разгромленага ў 1973—1974 гадах. Міхась Чарняўскі тады быў звольнены з працы ў Акадэміі навук, сутыкнуўся з КДБ.



У 1988—1989 гадах Чарняўскі быў сярод стваральнікаў Народнага фронту, адраджаў сацыял-дэмакратыю.

"Міхась Чарняўскі быў нязменным рыцарам беларускага Адраджэння, — так коратка і ёмка ахарактарызаваў яго Алег Трусаў. — Ён заснавальнік ТБМ, „Грамады" і БНФ. За сваё жыццё ён выгадаваў цэлае пакаленне сапраўдных беларускіх патрыётаў".

Як навукоўца Міхась Чарняўскі вывучаў нёманскую археалагічную культуру і крывінскі варыянт нарвенскай культуры, даследаваў крэмнездабываючыя шахты ў Ваўкавыскім раёне, помнікі каменнага і бронзавага вякоў у іншых мясцінах Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы "Гісторыі беларускага мастацтва", "Археалогіі Беларусі" і "Гісторыі Беларусі" ў шасці тамах. Кансультаваў энцыклапедыю "Археалогія і нумізматыка Беларусі" і Энцыклапедыю гісторыі Беларусі.

Міхась Чарняўскі напісаў і захапляльныя дзіцячыя кнігі пра старажытныя часы: "Страла Расамахі", "Вогнепаклоннікі". Ён аўтар кніг "Правадыр крылатых вершнікаў Ян Кароль Хадкевіч", "Дзесяць бітваў" і "Як пошуг маланкі. Расціслаў Лапіцкі". Апошняя вяртала гісторыі забытае імя аднаго з удзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву.

Гэтым летам Міхась Чарняўскі збіраўся здзейсніць даўнюю мару — зладзіць раскопкі гарадзішча ў роднай вёсцы. Цяпер гэта мусіць зрабіць ягоны сын, таксама археолаг.

Пахавалі Міхася Чарняўскага на радзіме, у вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

ЧУЛІ?

## Чэмпіянату СНД па футболе не будзе

*Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі футбола Ёзэф Блатэр заявіў, што гэта немагчыма, таму што ідзе ўразрэз з прынцыпамі ФІФА.*

*"ФІФА — гэта арганізацыя са структурай пірамiды, у якой важную ролю іграюць клубы. Клубы павінны арганізоўваць клубныя спаборніцтвы, але ўнутры нацыянальных федэрацый, гэта палітыка ФІФА і ўсёй сусветнай футбольнай сям'і. Мы ніколі не будзем пераглядаць межы нацыянальных ліг. Стварэнне лігі СНД немагчыма, гэта ідзе ўразрэз з прынцыпамі ФІФА, а такога не будзе"*, — прыводзіць словы Блатэра РІА "Новости".

Як вядома, 26 снежня мінулага года было абвешчана пра стварэнне аўтаномнай некамерцыйнай арганізацыі "Аргкамітэт Аб'яднанага чэмпіянату па футболе", кіраўніком якой быў прызначаны галоўны трэнер уладзікаўказскай "Аланіі", былы футбаліст Валерый Газаеў. Ён заявіў, што наймацнейшыя футбольныя клубы Украіны, Беларусі, Арменіі і Казахстана зацікаўлены ў арганізацыі аб'яднанага чэмпіянату СНД. Паводле яго слоў, новая структура дапаможа вырашыць праблемы, з якімі сутыкаецца не толькі расійскі чэмпіянат, але і многія еўрапейскія першынствы.

Беларуская федэрацыя футбола на ініцыятыву стварэння чэмпіянату СНД і выказванні Газаева не адрэагавала. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, чыноўнікі БФФ былі не ў захапленні ад ідэі аб'яднанага турніру.

КРЫЖАВАНКА «З НАВАГОДДЗЕМ!»

**Па гарызанталі**: 2.Сталіца краіны, дзе ў навагодняй варажбе дзяўчатам дапамагаюць хатнія тапкі. 4.Рытуальная страва ў католікаў на Вігілію. 5.Казачнасць навагодняй ночы. 7.Цуд карнавальнага шэсця персанажаў казак на Новы год у Англіі. 8.Еўрапеец, для якога стары год заканчваецца салютам паветраных шароў, што лопаюцца. 10.Інгрэдыент грэцкай куцці на Васілле. 11.Саламяны вянок як прадмет навагодняга ўпрыгажэння дома ў Японіі. 14.Барадаты карлік, навагодні сімвал продкаў. 15.Дрэва, якім на Новы год па загадзе Пятра І упрыгожваліся вуліцы. 18.Строі Снягуркі. 21.Памер зарплаты белавежскага Дзеда Мароза. 22.Дзеянне кубінцаў на Навагоддзе з вадой, налітай у посуд. 23.Прадмет навагодняга сталовага набору. 24.Карэнны жыхар Фінляндыі, дзе пасяліўся Дзед Мароз. 27.Што ўпрыгожваецца да пачатку калядных вакацый? 31.Апякун жывёлы ад марозу на Беларусі. 32.Свята, што адзначаецца 19 студзеня. 35.Пасада аўтаркі шлягера "У лесе нарадзілася ялінка" ў доме яе будучага мужа. 36.Роля Лорда Беспарадку на карнавале казачных персанажаў у Англіі. 38.Вялікая колькасць людзей з ліхтарамі на кітайскіх вуліцах у навагоднюю ноч. 39.Час адносна сонца 13 студзеня, калі раяць выносіць ёлку з хаты.

**Па вертыкалі**: 1.Гатаванне мяса да Шчодрай куцці. 2.Уводны артыкул А.Фядосіка да "Беларускага народнага календара" А.Лозкі. 3.Нацыянальнасць мастака Т.Найта, які ўпрыгожыў Дзеда Мароза барадой. 5.Што ў першыя гады савецкай улады суправаджала гаспадара, калі ў доме красавалася ёлка? 6.Святы Зосіма як ахоўнік пчол (ушаноўваецца 17 студзеня). 9.Малюнак Ігнація Баганосца; у яго гонар служаць малебен 2 студзеня. 10.Краіна, у якой вераць, што смех у Навагоддзе прыносіць удачу. 12.Што па рэцэпце стваральніка аліўе павінна быць у навагодняй салаце? 13.Зямельнае ўладанне Зюзі Паазерскага, прапрадзеда беларускага Дзеда Мароза. 14.Афармленне твару Снягуркі. 16.Гімнаст тэатра-балагана на Захар'еўскай вуліцы Мінска больш за 100 гадоў таму. 17.Пасудзіна для прычашчэння па-за царквой. 19.Вадаём, куды на Новы год японцы выпускаюць карпа; яны лічаць, што Бог плавае на яго спіне. 20.Гурба снегу ад завірухі. 25.Вопратка каляднай казы. 26.Навагодні традыцыйны нумар казачнага дракона ў Кітаі. 27.Гаспадыня сялібы Зюзі Паазерскага. 28.Інструмент, што гучыць у касцёле на Каляды. 29.Калядная шлюбная карагодная гульня на Беларусі. 30.Гаспадарчая пабудова, што акрапляецца бацькам на трэцюю куццю. 33.Ападкі зімой. 34.Аздоба строяў Снягуркі. 37.Персанаж гурта калядоўшчыкаў.

**Ала АДАМАЙЦІС.**



**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ:**

**Па гарызанталі:** 2.Прага. 4.Ламанец. 5.Рамантыка. 7.Дзіва. 8.Паляк. 10.Яйка. 11.Аксесуар. 14.Гном. 15.Сасна. 18.Убор. 21.Аклад. 22.Выліванне. 23.Лыжка. 24.Лапар. 27.Горад. 31.Апанас. 32.Вадохрышча. 35.Гувернантка. 36.Кіраванне. 38.Грамада. 39.Захад.

**Па вертыкалі:** 1.Смажанне. 2.Прадмова. 3.Амерыканец. 5.Рызыка. 6.Апякун. 9.Ікона. 10.Японія. 12.Рабчык. 13.Маёнтак. 14.Грым. 16.Акрабат. 17.Дараносіца. 19.Рака. 20.Занос. 25.Кажух. 26."Танец". 27.Ганна. 28.Арган. 29."Яшчар". 30.Лазня. 33.Снег. 34.Акраса. 37.Каза.

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.01.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27460 экз. Заказ №223.